# Нашто беларусы будуюць замкі?

Мінск, які вы не бачылі: пяць сталічных замкаў. **Старонкі 6—7.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

№ 47 (836) 18 снежня 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Лазар: «Я не вінаваты»

Ксёндз, якога паўгода пратрымалі ў турме КДБ, служыць у вілейскім касцёле. **Старонка 4.**

**Свет**

## У Кіеве сотні тысяч выйшлі супраць Мытнага саюза

Януковіч і апазіцыя шукаюць кампраміс. **Старонка 3.**



**Здарэнні**

## Туркмены пабіліся з беларусамі

Канфлікт пачаўся ў сацыяльных сетках, а скончыўся рэальнай крывёй. **Старонка 5.**



**Усяго патроху**

## Якімі яны былі ў маладосці?

Фотаздымкі вядомых палітыкаў тады і цяпер. **Старонка 11.**



**Літаратура**

## Мінск. Сем калядных гісторый

Апавяданне Ксеніі Шталянковай. **Старонка 12.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Канечне падпішыцеся на паўгоддзе!

## Газету падпісчыкам пачалі дастаўляць на дзень раней, у сераду

Свежая газета на стале – гэта добрая традыцыя. А «Наша Ніва» – гэта яшчэ і глыток беларускасці, выдатнае чытво. Аб'ектыўная, незалежная, «Наша Ніва» дае ўсякую карысную інфармацыю. Тут вы знойдзеце тое, чаго ў дзяржаўных газетах не скажуць. А інфармаваны – значыць абаронены.

З новага года цана падпіскі вырасла. Але газета павінна каштаваць, як бохан хлеба. Падрыхтаваць газету, надрукаваць яе – гэткая ж няпростая справа, як праца хлебароба. Падаражэла газета, бо падаражэла ўсё вакол: паслугі друкарні і пошты, бензін і электрычнасць.

Падпішыце сябе і падарыце падпіску сваякам, сябрам. Гэта грошы на святую справу — беларускую справу.

### Цяпер падпісацца можна і праз банкаматы, і праз інтэрнэт-банкінг!

Рэдакцыйную падпіску можна аплаціць і з банкаўскай карткі, праз банкаматы, праз інтэрнэт-банкінг, плацежныя сістэмы. Шукайце «Нашу Ніву» ў раздзеле «СМІ» сістэмы ЕРІП. Гэта надта зручна, хутка, выгадна!

Больш інфармацыі знойдзеце на сайце NN.BY (у правым верхнім кутку).

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні да 23 снежня:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў. Па пытаннях распаўсюду звяртайцеся: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 356-98-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

### Банкаўскія рэквізіты:

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828 Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Частае пытанне: як запаўняць графу «рахунак на аплату»

Пры аплаце ў банку ці на пошце, **бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату»**. Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Улады замахнуліся на Музей Багдановіча

Рашэннем калегіі Міністэрства культуры Музей Максіма Багдановіча страчвае самастойны статус. Яго далучаюць да Дзяржаўнага музея беларускай літаратуры ў якасці філіяла.

### Пагрозы для Максіма

У чым пагроза такога рашэння для айчыннай культуры? Багдановіч — наш класік. Адзінкі з творцаў такога ўзроўню маюць самастойныя ўстановы, дзе вывучаецца іх творчасць. Між тым, у Беларусі дагэтуль няма дзяржаўных музеяў, прысвечаных творчасці Гарэцкага і Караткевіча. Дзяржава мусіць адкрываць новыя ўстановы, а не рэарганізоўваць тыя, якія існуюць. Рэарганізацыя музея ў філію — зневажальная для грамадства.

У адну структуру мае сэнс аб'ядноўваць установы, падобныя паміж сабой. Між тым музей Багдановіча сам мае два філіялы (Дом у Ракуцёўшчыне, дзе летам 1911 года адпачываў Багдановіч, і «Беларускую хатку» ў Мінску). Нават калі музей стане філіяй, яны будуць мець той жа статус (бо знаходзяцца на адлегласці ад асноўнага будынка). Атрымліваецца, творчасць Багдановіча будзе прадстаўлена ў трох філіях? І кожная з іх будзе роўная адзінаму ў Беларусі Музею Быкава, які мусіць неўзабаве адкрыцца.



Таццяна Шэляговіч, дырэктарка Музея Багдановіча, кажа, што пасля рэарганізацыі ў філіяле могуць застацца «толькі сем ці пяць чалавек, а можа, і таго меней».

### Тэст для грамадства

Канчатковае рашэнне пра статус установы яшчэ не прынятае. Пастанову калегіі Мінкульта павінен зацвердзіць урад. Таму грамадства яшчэ можа паўплываць на канчатковае рашэнне. Ускосна пра гэта сведчаць заявы інтэлігенцыі, агучаныя на адмыслова скліканай прэс-канферэнцыі.

На думку пісьменніка Уладзіміра Арлова, неўзабаве пасля рэарганізацыі можа ўзнікнуць думка: навошта філіялу такі вялікі будынак? Багдановічу хопіць залы ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Адкрыта выказвалася меркаванне, што на будынак музея можа прэтэндаваць бізнэсмен Юрый Чыж. Паэт Генадзь Бураўкін прывёў прыклад з Нацыянальнай акадэміяй навук. У выніку аб'яднання паміж сабой Інстытута літаратуры і Інстытута мовы іх даследаванні істотна скараціліся. А рэжысёр Валерый Мазынскі прапанаваў збіраць грошы, каб выкупіць музей.

### Улада апраўдваецца

Улада адказала вельмі хутка. Намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік заявіў, што музей не будзе закрыты і захавае ў сваім будынку. Яго фонды не будуць перададзены ў Музей гісторыі беларускай літаратуры. А супрацоўнікі працягнуць займацца навуковымі пошукамі, працай з фондам і пошукам новых матэрыялаў пра жыццё Багдановіча. Асабліва рэзкай стала рэпліка Чэрніка на прапанову аб фінансавай дапамозе: «Дык збярыце грошы і набудзьце прадметы для музея, каб папоўніць экспазіцыю асабістымі рэчамі Багдановіча!»

Ці можна даваць веры такім словам? Гісторыя з Коласаўскім ліцэем, якая мела месца дзесяць гадоў таму, паказвае, што чыноўнікі могуць змяніць уласную пазіцыю. Але эмацыйная рэакцыя сведчыць, што крытычныя стрэлы трапілі ў «яблычак». Інтэлігенцыя прымусіла ўладу апраўдвацца. Магчыма, зробленыя заявы выратавалі музей ад будучага закрыцця.

**Максім Кавальскі**

## Сціслa

### З Адміністрацыі — у «Белкаапсаюз»

Намеснік старшыні Адміністрацыі прэзідэнта Валеры Іваноў прызначаны кіраўніком «Белкаапсаюза». Гэта відавочнае паніжэнне. Раней ён ачольваў Шклоўшчыну, а летась кіраваў Беларускай калійнай кампаніяй.

### У Беластоку збіраюцца ліквідаваць беларускую філалогію

Скарачэнні ў Беластоцкім універсітэце: рада філфака вырашыла прыпыніць набор студэнтаў на некаторыя аддзяленні, у тым ліку на беларускую філалогію. Пакуль пастанова чакае зацвярджэння Сената ўніверсітэта. Галоўная прычына — слабая зацікаўленасць гэтымі спецыялізацыямі.

### Найлепшы поп-выканаўца — Ланская

Міністэрства культуры ўручыла чарговую Нацыянальную музычную прэмію.

Найлепшай песняй 2013 прызнана «Падаў снег» Іны Афанасьевай. Найлепшы поп-выканаўца — Алёна Ланская, а найлепшы альбом года — кружэлка Traukamuraukа гурту Kriwi.

### Мінімальны заробак — $175

З 1 студзеня 2014 года мінімальны заробак работніка на поўнай стаўцы павінен складаць не менш за 1 660 000 рублёў. Гэта $175 у эквіваленце. Заробак за гадзіну дасягне як мінімум 9 890 рублёў.

### Знакамітая вавёрка падохла

Вавёрку Масіка можна было сустрэць у салоне таксі мінчука Пятра Панкратава. «Таксі з вавёркай» стала адным з незвычайных сімвалаў горада.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

### Якому паважліваму звароту па-беларуску аддаяце перавагу Вы?

| | | |
|---|---|---|
| Спадар, спадарыня, спадарычна | 712 | 62% |
| Пан, пані, паненка | 264 | 23% |
| Мушшына, жэншшына, дзевушка | 62 | 5% |
| У гэтай краіне я нямы | 111 | 10% |

Прагаласавала 1149.

## Самае чытанае на nn.by за 11—17 снежня

1. Майдан вытрымаў штурм: хроніка, фоты, відэа
2. У Кіеве сотні тысяч пратэставалі супраць Мытнага саюза з Расіяй
3. Твары кіеўскага Антымайдану — фотарэпартаж
4. Кучма: Украіна — банкрут
5. Бюджэт-2014: больш грошай на міліцыю і КДБ, менш на адукацыю і культуру
6. Шэдэўр тэлеканала «Россія»: Дзмітрый Кісялёў пра Майдан
7. Як правільна звяртацца па-беларуску: спадар, пан ці неяк яшчэ?
8. Украінскія комікі прысвяцілі дзве серыі «Казачнай Русі» Лукашэнку
9. Быў горшы за сабаку: у КНДР расстралялі дзядзьку Кім Чэн Ына
10. Сфінкс пад снегам: у Егіпце выпаў снег — фотафакт

# Украінцы на Майдане: «Будзем стаяць да перамогі!»

Актыўнасць пратэстаў згасае, бакі **шукаюць кампраміс**.



REUTERS/MARKO DJURICA

«Слава Украіне! — Героям Слава!» — вітальны вокліч Украінскай паўстанцкай арміі штодня сотні разоў разносіцца над Майданам. Барыкады на Хрышчацiку і прылеглых вуліцах, утрамбаваныя мяхамі з будаўнічым смеццем, па-ранейшаму стаяць, радуючы апазіцыянераў і раздражняючы прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча. Аднак і той ужо не заікаецца аб магчымасці сілавога разгону акцыі. Актыўная фаза супрацьстаяння скончаная, і цяпер надыходзіць час пошуку кампрамісаў.

Януковіч зрабіў паўкрока насустрач пратэстоўцам: адрокся некалькіх сілавікоў, якія нібыта аддавалі загады аб разгоне Майдану. Аднак пратэстоўцам гэтага мала. Яны мараць аб сыходзе самога Януковіча, лідары апазіцыі тым часам згодныя і на некалькі паказальных адставак сярод міністраў.

Час гуляе супраць Майдана. «Народнае веча» 8 снежня сабрала 500 тысяч чалавек, наступнае, праз тыдзень, удвая меней. З надыходам маразоў падтрымліваць пратэсты на Майдане будзе ўсё складаней, дый легітымнай мэты пратэстаў не бачыцца. У выніку парадак дня за некалькі тыдняў трансфармаваўся з «патрабуем інтэграцыі з Еўрасаюзам» да «патрабуем хаця б не ўступаць у Мытны саюз».

Раённы суд Кіева тым часам дыпламатычна вырашыў разгледзець пазоў аб вызваленні цэнтра горада ў канцы студзеня. Маўляў, стойце, колькі зможаце. Пратэстоўцы адказваюць: калі трэба, пратрымаемся да вясны.

**Ягор Марціновіч**

**Што патрабуе Майдан?**

- адстаўкі ўрада на чале з Азаравым
- не ўступаць у Мытны саюз
- вызваліць палітвязняў

**На якія саступкі пайшоў Януковіч?**

- загадаў вызваліць дзевяцярых затрыманых падчас штурму рэзідэнцыі
- адправіў у адстаўку мэра Кіева і двух сілавікоў, нібыта адказных за разгон Майдану
- паабяцаў не прымяняць сілу супраць Майдану




**Беларусы на Майдане**

Ад пачатку пратэстаў у Кіеве нямала беларусаў з нацыянальнымі бел-чырвонабелымі сцягамі. Яны прыехалі ва Украіну, каб выказаць сваю салідарнасць. І менавіта беларусы стаялі ў першых шэрагах падчас абароны Майдану, казалі ўдзячныя ўкраінцы.

## Фальшывыя «Песняры» выступілі на АнтыМайдане

Прапрэзідэнцкая Партыя рэгіёнаў абяцала сабраць на сваім Майдане да 200 тысяч чалавек! Іх звозілі з усёй краіны, абяцаючы грошы — па 300 тысяч беларускіх рублёў за дзень стаяння ў падтрымку ўлады. Тым, хто адмаўляўся, пагражалі звальненнямі.

Аднак ідэя аказалася правальнай. Бюджэт кампаніі пакралі, таму да Кіева даехала не больш за 40 тысяч чалавек. Дый тыя пры першай магчымасці ўцякалі з мітынгу-канцэрта.

На трыбуне Антымайдану былі заўважаныя... «Песняры». «Гэта былі нейкія левыя «Песняры», мы не сочым за іх творчасцю», — заявіў Вячаслаў Шарапаў, мастацкі кіраўнік «афіцыйных» «Песняроў».

Як высветлілася, на канцэрце выступалі музыкі, чый ансамбль мае юрыдычны адрас у расейскім Зеленаградзе. Зрэшты, і гэтыя выканаўцы імкнуліся ўсяляк адмежавацца ад сваёй падтрымкі Януковіча. «Нас паклікалі выступіць «на народных гуляннях», — апраўдваецца прадстаўнік калектыву Віктар Малчанаў. — Калі мы паглядзелі тэлебачанне і зразумелі, што апынемся на Антымайдане, спрабавалі адмовіцца. Але мы трапілі ў пастку, бо калі б адмовіліся, то давялося б плаціць за гатэль і за аўтобус сваімі грашыма».

Пра ганарар за выступ на мітынгу Маўчанаў не распавёў, аднак украінская спявачка Анжаліка Рудніцкая паведаміла, што Партыя рэгіёнаў прапаноўвала зоркам ганарар у памеры $15 тысяч.

**Ганна Бадзяка**

## Героі Майдана



**Руслана**

Пік славы львоўскай спявачкі прыйшоўся на 2004-ы, калі яна перамагла на «Еўрабачанні». У тым жа годзе яна прыняла актыўны ўдзел у Аранжавай рэвалюцыі, падтрымаўшы Віктара Ючшанку. Пасля перамогі дэмакратаў яна стала дэпутатам, але неўзабаве адышла ад палітычнай дзейнасці.

На новым Майдане спявачка праводзіць разам з пратэстоўцамі кожную ноч, разаграваючы іх са сцэны. Штогадзіннае выкананне нацыянальнага гімна, нягледзячы на сарваны голас, танцы і скокі ўсю ноч — гэта ўсё Руслана. Ад пачатку акцыі спявачка заявіла, што гатовая да самаспалення, калі патрабаванні пратэстоўцаў не будуць выкананыя.



**Ліза**

Беспрацоўная Ліза Шапашнік з Данбаса стала прыкладам іншай самаахвярнасці. 27-гадовая дзяўчына — інвалід з дзяцінства. Аднак нягледзячы на гэта яна трэці тыдзень працуе валанцёрам на кухні. Разносіць падносы дзяўчыне з ДЦП было складана, таму ёй даручылі іншыя абавязкі.

Спіць па некалькі гадзін у дзень — тамсама на падлозе Дома прафсаюзаў. Ліза трымаецца са здаровымі валанцёрамі на роўных і героем сябе не лічыць. «У Еўрасаюзе інваліды — гэта частка грамадства, ім дапамагаюць, іх не кідаюць», — тлумачыць дзяўчына свой выбар на карысць еўрапейскага развіцця краіны.

## Тут карнавал, а не вайна

Памылковыя **міфы пра Майдан**.

**Міф 1: «Паралізаваны цэнтр горада»**

На першы погляд, вуліцы каля Майдана насамрэч выглядаюць як падчас вайны. Але ўздоўж Хрышчацiка вядзецца актыўны гандаль: кава, гарбата, хот-догі, булачкі... Працуюць і банкі, і рэстараны, і гандлёвыя цэнтры. Усё гэта больш падобна да вясёлага карнавала, чым да вайны.

**Міф 2: «Ва ўкраінцаў парадку быць не можа»**

Жалезная дысцыпліна на Майдане ва ўсім. За час пратэстаў апазіцыянеры захапілі некалькі будынкаў «для патрэбаў рэвалюцыі». У іх уведзены строгі прапускны рэжым, працуюць службы самаахловы.

Няспыннае функцыянаванне Майдану забяспечваюць паўтары тысячы валанцёраў — разгорнуты кухні, медпункты, усім ахвотным раздаецца вопратка.

А на гіганцкі экран бясперабойна транслюецца ўсё, што адбываецца на плошчы.

**Міф 3: «Тысячы пратэстоўцаў спяць наўпрост на Майдане»**

Уначы Майдан заўважна пусцее, на ім застаецца некалькі тысяч чалавек. Але яны не кладуцца спаць. Начная змена стаіць на варце ў чаканні магчымага штурму. Час пралятае ў размовах «за жыццё». І штогадзінным выкананні гімна!

Адсыпаюцца пратэстоўцы ў адносным цяпле ў захопленых будынках. Многіх кіеўляне бяруць на бясплатную начоўку да сябе.

**Міф 4: «Гэта акцыя за далучэнне да ЕС»**

Адмова ад падпісання Пагаднення аб асацыяцыі з Еўрасаюзам стала нагодай для першых пратэстаў. Але цяпер Майдан стаіць перадусім супраць Януковіча, ягонага ўрада і ягоных сілавікоў.

Лозунг «Банду — гэць» гучыць нашмат часцей, чым заклікі да еўраінтэграцыі.

**Міф 5: «Яны стаяць за еўрапейскія грошы»**

У апазіцыі няма патрэбы збіраць людзей за грошы, бо дзясяткі тысяч украінцаў (а ў выходныя дні — сотні тысяч) выходзяць на барыкады самі.

Безумоўна, грошы на Майдан выдаткоўваюцца, і немалыя. На забеспячэнне жыцця «дзяржавы ў дзяржаве» патрэбныя і матэрыяльныя, і фізічныя рэсурсы. Арэнда біятуалетаў, плата за электрычнасць (сцэна, экраны), купля дроваў...

Шмат што бяруць на сябе бізнэсоўцы, чым могуць дапамагаюць і гараджане.

**ЯМ**

# Ксёндз Лазар: «Я ні ў чым не вінаваты»

«Ён ці не?» — пытаецца фатограф. «Я не бачу добра», — адказваю. Узіраюся: нібыта і падобны да Лазара, але чамусьці з барадой.

«Так, гэта новы ксёндз. Зусім нядаўна да нас прыслалі», — кажа жанчына гадоў сарака пяці. Нядзеля. Святая імша ў неагатычным касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Вілейцы. Не сказаць, што людзей «не прапіхнуцца», але чалавек 200 знайшлі час прыйсці ў храм, месцаў на лавах на ўсіх бракуе. Па сённяшнім часе зусім не мала.

Пра справу ксяндза Уладзіслава Лазара, якога падазраюць у датычнасці да шпіянажу і паўгода пратрымалі ў турме КДБ, жанчына нічога не чула.

Дзесяць дзён да свята Божага Нараджэння. Трэці тыдзень адвэнту.

Касцёл у Вілейцы на цэнтральнай плошчы. Праз дарогу царква. Злева, побач з раённай дошкай гонару, лунае чырвоны сцяг. Думалі, што эсэсэраўскі. Не, у гонар фабрыкі дзвярэй «Лаза». Справа — Парк культуры. На самой плошчы, проста з багажнікаў аўтамабіляў, можна купіць садавіны, гародніны. Як свежай, так і марынаванай.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Дык адкуль вы? Нагадайце яшчэ раз», — пытаецца пробашч касцёла Аляксандр Барыла. «Так, ён у нас афіцыйна працуе». Святар уважліва вывучае нашы рэдакцыйныя пасведчанні. Тлумачыць нам, што справа вельмі далікатная і ён не ведае, ці пагодзіцца ксёндз Уладзіслаў размаўляць. Засмучаемся, што выхадны дзень можа паляцець сабаку пад хвост і сто кіламетраў мы праехалі ўпустую.

Айцец Барыла бярэ паперку з нашымі прозвішчамі ды ідзе ў плябанію. «Нічога абяцаць не магу», — кажа ён. Мы чакаем на вуліцы.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Хвілінаў праз пяць-шэсць ксёндз Аляксандр з'яўляецца ў дзвярах, праз імгненне выходзіць і Уладзіслаў Лазар. За час працы ў журналістыцы даводзілася пабачыць дастаткова шмат людзей, што выходзяць з турмы. І на гэтым фоне першае, што кідаецца ў вочы: айцец Лазар вельмі бадзёры, яго твар не скаваны пакутамі і знясіленасцю.

Хаця на маё пытанне пра ўмовы ўтрымання ён адказвае: «Усё было як у турме». І, здаецца, гэтымі простымі словамі яму атрымліваецца выказаць усё, што перанёс. Лёгка не было — чытаецца ў гэтым адказе.

«Следства працягваецца. Нічога гаварыць не магу адносна справы. А то ў нас могуць і назад пасадзіць. Адно скажу: я ні ў чым не вінаваты», — на выдатнай беларускай мове кажа святар.

Яшчэ пару хвілінаў размаўляем на ганку. Ксёндз Лазар кажа, што атрымліваў некаторыя газеты, даходзілі «Аргументы і факты», каталіцкія выданні. Ён удзячны ўсім, хто асвятляў ягоную справу. Трохі смяецца. Праўда, так і не ўдаецца ўгаварыць яго сфатаграфавацца.

Святло на гэтую таямнічую справу пакуль не праліта. Але з вызваленнем ксяндза Лазара набліжаецца час, калі ўсё стане вядома.

**Зміцер Панкавец, Вілейка**

# Выйшаў на перформанс — апынуўся ў псіхушцы

Хлопец з Брэста **Алесь Чаркашын** зрабіў незвычайны ўчынак.

15 снежня ён выйшаў да будынка Брэсцкага аблвыканкама ў строі «прарока», з завязанымі ланцугом запясцямі і перамазанымі чырвонай фарбай рукамі. Яна сімвалізавала кроў беларусаў.

Чаркашын, па ягоных словах, «заклікаў прадстаўнікоў улады пакаяцца і спыніць прыгнёт і абкраданне свайго народа». «Інакш уся кроў, якая пральецца, будзе на іх сумленні», — сказаў ён. Таксама ён звярнуўся да царквы з просьбай узнесці малітву за народ і за тое, каб Бог прывёў улады да розуму.

Акцыя доўжылася каля 15 хвілін і прайшла мірна. Але неўзабаве пасля перформанса Чаркашына ўсё ж затрымалі — ля консульства Расіі, гэта за некалькі кварталаў ад аблвыканкама. Гісторыя мела ўсе шансы скончыцца звычайнымі «суткамі» за несанкцыяванае пікетаванне, Алеся з РАУС раптоўна перавялі ў... псіхушку. Чаркашына звезлі ў псіхіятрычны стацыянар «Плоска» Брэсцкага абласнога псіханеўралагічнага дыспансера на агляд.

«Алесь — мой сябар, і я ручаюся, што ён абсалютна нармальны чалавек, ён ніколі не назіраўся ў псіхдыспансеры», — абурaецца Зміцер Шурхай, каардынатар аргкамітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі па Брэстчыне.

Шурхай расказаў, што Чаркашын ад пачатку 2000-х уваходзіў у склад арганізацый «Зубр», «Край», быў адным з арганізатараў «маўклівых пратэстаў» і акцый «Стоп-бензін».

«Міліцыянтаў зацікавіла тое, што я быў у балахоне «прарока», што рукі мае былі намазаныя чырвонай фарбай і закаваныя ланцугамі, таму яны вырашылі правесці экспертызу, каб атрымаць даведку аб маім псіхічным здароўі», — тлумачыць Чаркашын.

«Калі чалавек чымсьці незадаволены, ён мог паклікаць журналістаў, напісаць скаргу. Навошта ж так прыцягваць да сябе ўвагу?» — разважае начальнік прэс-службы УУС Брэсцкага аблвыкалкама Сяргей Дучэнка.

Сам Чаркашын, пакуль быў у псіханеўралагічным дыспансеры, на ўсялякі выпадак не еў і не піў, — каб нічога не падсыпалі.

Галоўны доктар брэсцкай «вар'ятні» Мікалай Скаскевіч адмовіўся размаўляць пра пацыента, дастаўленага ў медустанову пасля палітычнай акцыі. «Я не хачу нічога казаць. Ёсць паняцце дактарскай таямніцы, і я не хачу, каб у мяне праз вас былі праблемы», — патлумачыў ён.


БЕЛАРУСКІ ПАРТЫЗАН

Сітуацыя атрымала незвычайны працяг. У аўторак пасяджэнне суда, куды прывезлі Чаркашына, адмянілі. Яго вярнулі ў міліцыю, адкуль адпусцілі дамоў, суд усё ж адбудзецца пазней. Актывіст гатовы, што за яркі перформанс яго пасадзяць на суткі альбо дадуць штраф.

**Кірыла Хілько**

## Адзінага кандыдата абяруць на Усебеларускім з'ездзе?

Ініцыятыву правядзення Усебеларускага з'езда вылучыў хрысціянскі дэмакрат, былы палітвязень Павал Севярынец. «Пакуль гэта яшчэ толькі праект, але ў яго ўсё больш прыхільнікаў. Я думаю, калі не ўдасца падчас мясцовай выбарчай кампаніі праймерыз для вызначэння лідара, з ім пагодзіцца і альянс за справядлівыя выбары «Талака», — цытуе палітыка БелаПАН.

Ідэю падтрымала кампанія «Гавары праўду». Па словах іх лідара Уладзіміра Някляева, праект узгоднены з большасцю іншых палітычных сілаў. «Я перакананы, што праводзіць Сход па вылучэнні адзінага кандыдата трэба найхутчэй. Хаця наўрад ці мы ўжо, праўда, паспеем да мясцовых выбараў, да красавіка 2014-га», — мяркуе Някляеў.

«Падтрымка «адзінага» будзе нашмат большай, чым асобных кандыдатаў. Свету таксама трэба прадэманстраваць чалавека, з якіх трэба размаўляць і мець справу», — перакананы ён.

**Зміцер Панкавец**

## Сцісла

### Аўтару «Хронікаў раёна» далі год калоніі

Адбываць пакаранне рэжысёр з народа Руслан Мірзоеў будзе ў Шклове. Ён праславіўся скандальнымі ролікамі «Хронікі МАЗа» і «Хронікі раёна». Мірзоеў атрымаў далі 15 сутак за дробнае хуліганства (мацюкі ў кіно), а крымінальная справа была заведзеная за парушэнні падчас адбывання хатняй хіміі.

### Баўмгертнера перасадзілі ў пентхаўс

Генеральны дырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнер пераведзены з маскоўскага СІЗА пад хатні арышт. Ён будзе жыць у шыкоўным пентхаўсе за $5 мільёнаў у цэнтры расійскай сталіцы. Суд дазволіў яму сустракацца толькі са сваякамі і адвакатамі, затое ніякіх званкоў па мабільніку і ніякага інтэрнэту.

### Мясцовыя выбары прызначаныя на 23 сакавіка 2014

Адпаведны ўказ падпісаў Аляксандр Лукашэнка. Мяркуецца, што аднachасова адбудуцца «давыбары» ў палату прадстаўнікоў у некалькіх акругах. У іх абраныя дэпутаты былі прызначаныя на кіраўнічыя пасады, не сумяшчальныя з працай у парламенце.

**ЯМ**

# Туркменскія і беларускія пацаны пабіліся праз дзяўчыну

Канфлікт пачаўся ў сацыяльных сетках, а скончыўся рэальнай крывёй.

Беларусу не спадабалася, што ягоная дзяўчына перапісвалася ў сацыяльных сетках з туркменскім студэнтам, які вучыцца ў Баранавічах, — прыраўнаваў. Высветліць адносіны з супернікам падлетак вырашыў ужывую, прызначыў «стрэлку» і пачаў збіраць людзей.

Туркменаў на сустрэчу сабралася больш. У выніку падлетак трапіў у бальніцу з пераломам левага перадплечча. Відавочцы расказваюць, што туркмены кінуліся ўрассыпную, калі пад'ехала міліцыя. А збітых было двое — другі беларус, праўда, абышоўся драпінамі.

Як паведамілі ва УУС Брэсцкага аблвыканкама, у міліцыю патэлефанавалі жыхар горада, які ўбачыў, як наспяваў канфлікт у пятніцу на вуліцы Арджанікідзэ. Калі на месца прыехалі тры нарады міліцыі, яны знайшлі збітага 15-гадовага падлетка. Пакуль ідзе праверка, міліцыя высвятляе асобы ўсіх удзельнікаў бойкі. Але на месцы здарэння ў той жа вечар быў затрыманы 19-гадовы туркмен: яго аштрафавалі за дробнае хуліганства на 260 тысяч рублёў — паводзіў сябе задзірліва.

«Я ў бальніцы ляжу. Прыязджайце ўсе сюды, рады буду вас усіх убачыць», — напісаў збіты беларус у сацыяльных сетках.

Між іншым, «УКантакце» яшчэ 13 снежня была створана старонка, праз якую заклікалі сабрацца на наступны дзень на бойку на баку беларусаў. Старонка заставалася адкрытай — кожны мог прачытаць каменты канкрэтных людзей. Відаць, гэтыя абмеркаванні ў інтэрнэце і сталі падставай, каб на наступны дзень у Баранавічы прывезлі байцоў АМАПу, якія патрулявалі горад, правяралі дакументы ў маладзёнаў, а некаторых адвозілі для размоваў у пастарунак. Пасля ўсе запісы павыдалялі. У групе было паўтысячы віртуальных удзельнікаў разборкі (хлопцаў і дзяўчат).

Абмеркаванне канфлікту працягваецца і праз колькі дзён пасля бойкі. Адны заклікаюць да фізічнага вырашэння спрэчак, іншыя, больш разважлівыя, прапануюць згуртавацца і напісаць заявы ў пракуратуру на туркменаў.


INTEX-PRESS.BY

Каб прадухіліць новыя бойкі, міліцыя спыняла ўсе групы моладзі запар.

**Едуць не толькі вучыцца**

Некаторыя студэнты з Туркменістана прыязджаюць у Беларусь не толькі па дыплом. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі ў Мінску туркмена, студэнта БДУ, па падазрэнні ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці. У групе замежнікаў ён у Мінску скупляў валюту для іншых асобаў, якія не хацелі «свяціцца». Толькі за сем месяцаў гэты студэнт канвертаваў 20 мільярдаў беларускіх рублёў у амерыканскія даляры — атрымалася больш за $2 мільёны. За такую працу ён атрымліваў свой працэнт. Цяпер ён затрыманы, яму пагражае ад двух да пяці гадоў турмы.

Таксама выявілі замежнікаў, які скупілі такім чынам $600 тысяч. На 13 чалавек, якія выводзілі валюту ў ценявы сектар, сабраны дакументы на высылку з краіны.

Дарэчы, у інтэрнэце ў пятніцу вечарам выклалі кароткае відэа, на якім медыкі аказваюць камусьці дапамогу — падпісана як вынік бойкі з туркменамі. Па стогнах, гэта малады чалавек, ён ляжыць на зямлі. А побач шмат міліцыянтаў. «І ўчора такое было, і сёння такое», — кажа жанчына, якая, як вынікае, жыве ў доме па суседстве. Атрымліваецца, сутычка была не першая.

Туркменаў у Беларусі вучыцца 8 тысяч чалавек, таму яны часцей за іншых замежных студэнтаў трапляюць у скандалы. У мінулую навагоднюю ноч, напрыклад, у Мінску затрымалі 25 студэнтаў з Туркменістана і Узбекістана — паводзілі сябе агрэсіўна, не рэагавалі на заўвагі міліцыі; у сакавіку былі бойкі ў Гомелі беларусаў з туркменамі, у кастрычніку яны пабіліся ў Мазыры.

**Сяргей Макарэвіч**

# Правялі эксгумацыю памерлага ў СІЗА

Родныя настойвалі на гэтым чатыры месяцы.

Эксгумацыя цела Ігара Пціцкіна адбылася 4 снежня. Цяпер месяц трэба чакаць вынікаў паўторнай экспертызы.

21-гадовы Ігар памёр у мінскім СІЗА на Валадарскага, дзе адбываў трохмесячны арышт: сеў за руль аўто, хаця быў пазбаўлены правоў. На целе роднымі хлопца знайшлі мноства сінякоў, якія сфатаграфавалі. Яны мяркуюць, што хлопца моцна білі, праз што ён і памёр.

Крымінальную справу ж завялі на фельчара ізалятара, які дзяжурыў у дзень смерці хлопца. Яго абвінавацілі ў неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, што пацягнула за сабой па неасцярожнасці смерць пацыента. Расследаванне гэтай справы прыняло Галоўнае следчае ўпраўленне Следчага камітэта Беларусі. Раней ім займалася УСК па Мінску.

**СМ**



**Вышук**



**Здаваў чужую кватэру**

20-гадовы хлопец з Салігорска арандаваў мінскую кватэру на трое сутак і тройчы яе здаў іншым. Узяў $1600 даляраў перадаплаты. Яго затрымалі, але, магчыма, нехта яшчэ пацярпеў. У падобных выпадках, звяртайцеся на: (017) 340-02-03, (029) 305-58-17.



**Разгільдзяй**

22-гадовага Вадзіма Шчарбакова шукаюць не першы месяц па падазрэнні ў крадзяжы апаратуры. Узяў у арэнду праектар, радыёмікрафоны ў некалькіх мінскіх фірмах і не вярнуў. Можа знаходзіцца ў Мінску альбо Маладзечне. Хто ведае месцазнаходжанне Шчарбакова, звяртайцеся на: (033) 666-68-56, 102.


BELTA.BY

# Воўк з чарнобыльскай зоны тэрарызаваў цэлы раён

Шэры драпежнік заходзіў проста на падворкі.

У Брагінскім раёне застрэлі трох ваўкоў. Аднаго з іх каля вёсак Краснае і Старая Ёлча, дзе апошнім часам здараліся напады на свойскую жывёлу. Загрызенымі знаходзілі цялятаў, свінню, трусоў, кур і нават сабак.

На драпежніка зладзілі цэлую аблаву. Дзяжурылі дзень і ноч паляўнічыя і міліцыя: у лесе, у вёсцы, у ваколіцы. Двух ваўкоў застрэлілі ў зграі, яшчэ аднаго — каля вёскі. Мяркуецца, што менавіта адзіночка рабіў наскокі на падворкі.

Забітых ваўкоў перадалі для лабараторных даследаванняў на шаленства.

**КМ**

## Сцісла

**Замест дзіка паляваў на памежнікаў**

Украінскі браканьер абышоў мяжу на Століншчыне, каб упаляваць беларускага дзіка. Калі ж яго заўважылі памежнікі, каб уцякчы, пачаў страляць па іх. Ніхто не пацярпеў. Браканьера затрымалі, а ягоны спадарожнік збег.

**Павесіўся салдат**

Павешаным знайшлі 20-гадовага салдата 11-й механізаванай брыгады ў Слоніме. Асноўнай версіяй здарэння следчыя называюць праблемы ў асабістым жыцці: расстаўся з дзяўчынай. Перад смерцю напісаў ёй паведамленне, што заб'е сябе.

**Выпіла і павезла дзяцей у садок**

У Гродзенскім раёне супрацоўнікі ДАІ спынілі «Сітраэн», які моцна віхляў па дарозе. Аказалася, што за рулём моцна п'яная жанчына везла дзяцей у садок. У крыві было 1,99 праміле алкаголю. Кіроўца патлумачыла, што ўвечары выпіла толькі два літры піва.

**Забіў дзяўчынку**

У мястэчку Капаткевічы Петрыкаўскага раёна знайшлі труп 12-гадовай дзяўчынкі. Мяркуецца, што яе забіў п'яны 19-гадовы вясковец і схаваў труп у хляве. Падазраваны затрыманы.

**Як баксёр Тайсан**

У Баранавічах сварка маладых людзей скончылася як у паядынку Майка Тайсана. Праўда, нічыё вуха не пацярпела, але адзін пакусаў за нос другога. Сутнасці справы гэта не мяняе: за знявечаны твар хлопец можа сесці на восем гадоў.

**Абгарэў пяцікласнік**

У Краснаполлі маці паставіла на газавую пліту ўскіпяціць ваду. Але кіпень заліў канфорку і патушыў агонь. Калі 13-гадовы сын гаспадыні вырашыў запаліць пліту зноў, успыхнуў газ. Хлопчык атрымаў апёкі 70 працэнтаў цела.

**Уваліўся ў палонку**

Трагедыя адбылася на возеры паблізу вёскі Вялікія Вікаравічы (Столінскі раён). Хлопчык пайшоў з двума сваякамі на рыбалку. Там яму стала халодна, і дарослыя адправілі яго дадому. Калі мужчыны вярнуліся з рыбалкі, дзіцяці дома не было. Дзіцячыя сляды знайшлі каля палонкі. Цела хлопчыка дасталі толькі на наступны дзень выратавальнікі.

**КМ**

# Навошта беларусы

Мінск, які вы не бачылі: **пяць сталічных** замкаў.

На тэрыторыі Мінска можна знайсці цікавы архітэктурны фенамен. Гэта прыватныя «замкі» — збудаванні нібыта з іншай эпохі, з тоўстымі сценамі і велічнымі вежамі. І хоць яны не падобныя да казачных каралеўскіх замкаў, раскіданых па Еўропе, сярод суседзяў яны вылучаюцца выразна.

У чым асаблівасць гэтай з'явы? Што кіравала гаспадарамі, калі яны пачыналі будаваць свае замкі? І наколькі камфортна жыць у такіх спецыфічных будынках? Пра гэта мы распыталі архітэктара Аляксандру Баярыну.

У часы СССР мець свой дом было неажыццяўляльнай марай, кажа яна. Якія адчуванні, калі такія мары здзяйсняюцца? У 1990-я людзі пачалі пускаць карані ў зямлю. Часцяком без праекта, без досведу, затое і без страху!

Жаданняў у новых гаспадароў было некалькі, і яны ўвесь час павялічваліся. Кожнаму члену сям'і па сваім пакоі! — Мець асобную сталовую! — Мець гараж і заходзіць у дом проста адтуль! — Мець свой падвал! Вялікі! Плошчай ва ўвесь дом! Крыху пазней дадаліся спартзала, кіназала, більярдная і, нарэшце, зімовы сад. Пра басейны тады марылі рэдка, больш цікавілі лазні, якія часам з'яўляліся на ўчастках першымі.

Аднак гладка было толькі на паперы...

Што выходзіла на практыцы?

**1.** Колькасць пакояў вырасла за кошт памяншэння іх памеру. Гэта нарадзіла новае паняцце «катухі».

**2.** Насіць ежу ў сталовую, калі няма прыслугі, было не вельмі весела, і ўсе працягнулі сядзець у кухнях.

**3.** Эканомія плошчы часцяком заганяла гараж у цокальны паверх. Падвал цягнуў за сабой яшчэ адну лесвіцу! А колькі праблем з гідраізаляцыяй... Таксама высветлілася, што функцыянальна напоўніць падвал рэальна складана.

**4.** Лесвіцы аказаліся занадта крутымі.

**5.** Більярдавая на мансардзе (а дзе ж яшчэ, толькі там памяшканне досыць вялікае і без пярэгарадак) падарыла першым паверхамнезабыўны грукат падзення шароў на падлогу.

**6.** Гараж у доме расчараваў. Спецыфічныя пахі праніклі ў інтэр'ер і замацаваліся там.

**7.** Зімовы сад у выглядзе «прылепка» працягваў глядзецца чужародным аб'ектам.

**8.** Аказалася, што няма ў нас столькі заняткаў, колькі пакояў мы запраектавалі! Каб праводзіць час у більярднай, трэба запрашаць сяброў, якія п'юць і застаюцца на ноч, — жонка супраць. У спартзалу хадзіць лянота, і нават тэлевізар над трэнажорам праблему не вырашае. Кіназала пустуе, паколькі сябры, калі доўга сядзяць, неспадзявана шмат выпіваюць і пачынаюць ламаць мэблю — жонка зноў-такі супраць. Сядзець жа ўдвух, каб потым падымацца і перабірацца ў спальню, не хочацца ад пачатку. Тым больш што на рамантычных фільмах жонкі ён засынае праз 15 хвілін, а ад баевікоў у яе баліць галава...



Адзін з першых мінскіх замкаў. Ягоны гаспадар скупляў участкі з вясковымі хатамі непадалёк ад Зялёнага Луга, будаваў на іх дамы, а пасля перапрадаваў. На гэтым і пагарэў. Яго чакала турэмнае зняволенне, а сам катэдж па дакументах вось ужо дзясяты год значыцца як арыштаваны.



Цна — самы багаты на замкі раён Мінска. Гэты катэдж будуе антыкрызісны ўпраўляючы. Кадастравае агенцтва само не ведае, колькі ў ім паверхаў: «трохчатырохпавярховы каменны жылы дом з цокальным паверхам і падвалам».



Гэты абаронцы замак схаваўся ў раёне Аўтазавода паміж звычайных прастакутных катэджаў і прыземістых драўляных хатак. Замест замка раней тут таксама стаяла непрыглядная жытло. Гаспадар уклаў у будаўніцтва душу, расказваюць суседзі. Але пры разводзе пакінуў замак былой жонцы паводле шлюбнай дамовы.

**Дайшло да абсурду: для жыцця гаспадароў хапала невялікай прасторы, на другі і трэці паверх ім няма чаго падымацца**

### Будаваць — дык на стагоддзі

За часы беларускай незалежнасці тыпалогія прыватнага домабудавання моцна змянілася. Шмат хто кажа, што заказчыкам прышчапілі густ, аднак гаворка ў большай меры пра змены ўмоў жыцця і будаўніцтва. З'явілася маса новых матэрыялаў, з вопытам прыйшло разуменне значнасці ўчастка і важнасці выгляду з дома.

Мы стараемся ўкладваць грошы роўна — разлічваем бюджэт, каб не заехаць у дом за паўмільёна даляраў з мэбляй з «Ікеі».

Адна рыса нас не пакідае — мы дагэтуль будуем на стагоддзі! Гэта наша нацыянальная рыса. Спробы спакусіць заказчыкаў на лёгкія шчытавыя домікі згасаюць адразу пасля першых перамоваў. Драўляны дом? Выдатна! Толькі бервяно будзе тоўстае, і скамплектаваны ён будзе па поўнай. А лепш за ўсё маналіт ці цэгла — каб на стагоддзі!

1990-ыя былі часам першапраходцаў у будаўніцтве! Шчаслівыя хвіліны - не ведаць, калі трэба спыніцца, каб не стаць смешным. Аднак усяму ёсць свой час. Быць сучасным — значыць будаваць з сучасных матэрыялаў па сучасных законах. Будаваць канструктывізм і мінімалізм нічым не лепш, чым будаваць гатычны замак. Мы перажылі перыяд замкаў, і гэта станоўчы факт. Любыя гістарычныя «цытаты» — гэта касцюмаваны баль.

# будуюць замкі?

**Агарод перамог архітэктуру**

Стылістычна катэджы-замкі — гэта паслядоўнікі раманскага стылю, але візуальна — готыкі.

Чаму ж у нас атрымалася готыка ў мініяцюры? У гэтым вінаваты… агарод! Неспатольная прага валодаць агародам прымусіла выбудоўваць дом па вертыкалі. Бо агарод мусіў быць памерам з увесь участак. Плюс сад і цяпліцы. У той час «газон» гучаў абразай!

Мець агарод і тры паверхі з падвалам — гэта лепш, чым мець зручны, распластаны на ўчастку дом і дзве градкі, меркавалі гаспадары.

А клопат аб захаванні назапашанага вымушаў будаваць высокі трывалы плот, які не прапускаў цікаўныя погляды.

Зрэшты, падобныя гістарычныя перадумовы былі і ў арыгінальнага раманскага стылю: ва ўмовах войнаў пераважала абарончая функцыя і было няшмат сродкаў на будаўніцтва.



На мове афіцыйных дакументаў высокія вежы называюцца звычайнымі мансардамі. Суседзі расказалі, што ў замку з шырачэзнымі вежамі ў элітнай Цне жыве дырэктар кампаніі па вытворчасці бутыляванай вады.



Гэты аргінінальны катэдж у Навінках бачаць усе кіроўцы, якія едуць па кальцавой — ад замка да трасы літаральна 100 метраў. Гэта двухкватэрны дом з асобнымі ўваходамі. З мінскіх «замкаў» ён адзіны з яркай афарбоўкай. Іншыя гаспадары абіраюць больш стрыманыя праекты.

**9.** Дзеці і ўнукі, для якіх было прыгатавана ад 2 да 6 пакояў, не асабліва радавалі сваімі візітамі. А ацяпляць трэба... І пыл кладзецца... Тут і прыйшоў першы сумнеў, а ці патрэбны такі вялікі дом? Дайшло да абсурду: для жыцця гаспадароў хапала невялікай прасторы, на другі і трэці паверх ім няма чаго падымацца.

**10.** Ну, і нарэшце, цудоўная вежа, навошта я цябе пабудаваў?! На здымках лёгка заўважыць, як мала плошчы ўнутры вежаў. Там наўрад ці хопіць месца для крэсла з таршэрам. Самы ўдалы варыянт — кабінет.

**11.** Невялікія вокны, якія так пасавалі фасаду, прапускалі трагічна мала сонца, і гэта пры нашым клімаце ...

**12.** Аркі. Якая добрая была думка пра іх і якая недарэчная рэалізацыя! Яшчэ адно расчараванне.

**Падрыхтаваў Ягор Марціновіч, фоты Сяргея Гудзіліна**

# Больш грошай на міліцыю і КДБ, менш — на адукацыю і культуру

Дэпутаты прынялі **бюджэт краіны** на 2014-ы.

Палата прадстаўнікоў першым чытанні прыняла бюджэт на наступны год толькі ў канцы снежня. Абмеркаванне дакумента ў 700 старонак заняло ў дэпутатаў менш за 2 гадзіны.

Бюджэт на 2014 год плануецца бездэфіцытным. Выдаткі супадаюць з прыбыткамі і складаюць 128,5 трыльёна — гэта на 7,2 трыльёна больш, чым было запланавана летась. Атрымліваецца, што сярэдні «рост» кожнай лічбы мусіць складаць 7%, з арыенцірам на інфляцыю.

Параўнаем выдаткі на найбольш цікавыя артыкулы бюджэта-2014 з мінулымі бюджэтамі.

Фінансаванне КДБ і МУС павялічваецца на 23% і на 21% адпаведна. Прычым КДБ за два гады «падаражэў» беларусам амаль удвая!

Пашанцавала і дзяржаўным журналістам. Выдаткі на аплату іх працы не скараціліся, а нават крыху ўзраслі. Што праўда, львіную долю забіраюць тэлевізійшчыкі.

Амаль на два мільярды больш, чым летась, Беларусь укладзе ў пакарэнне Антарктыды. Было 4,72 мільярда, стала 6,52! А вось іншай дзяржпраграме —«Замкі Беларусі» — не пашанцавала: у 2014 годзе яна будзе скарочаная на 1 мільярд рублёў, а «Слуцкія паясы» — амаль на 2 мільярды. Выдаткі на культуру ў бюджэце-2014 скарачаюцца аж на 150 мільярдаў!

Скарачэнне, хаця і нязначнае, закранула адукацыю. На яе ў бюджэце на наступны год прадугледжваецца 6,60 мільярда замест 6,64 мільярда летась.

**Паводле: Павел Свярдлоў, «Еўрарадыё»**

| Куды вылучаюцца грошы? | 2012 | 2013 | 2014 |
|---|---|---|---|
| Камітэт дзяржаўнай бяспекі | 509 687 | 753 118 | 928 706 |
| Міністэрства ўнутраных спраў | 2 741 509 | 3 931 625,7 | 4 780 888 |
| Ахова здароўя | 3 791 184 | 5 348 468 | 5 745 927 |
| Адукацыя | 4 617 382 | 6 636 608 | 6 599 295 |
| Культура | 648 788 | 872 129 | 718 945 |
| СМІ | 491 678 | 669 206 | 676 113 |
| з іх тэлебачанне і радыёвяшчанне | 366 270 | 514 674 | 548 294 |
| Антарктычная праграма | 2 718 | 4 729 | 6 525 |
| Дзяржпраграма «Замкі Беларусі» | — | 2 500 | 1 424 |
| Фундаментальныя навуковыя даследаванні | 470 560 | 760 663 | 784 931 |
| Абслугоўванне замежнага доўгу | 5 937 420 | 7 039 810 | 7 695 675 |
| «Дажынкі» | 81 200 | 169 680 | 248 500 |

Усе лічбы — у мільёнах рублёў.

# Мы не СССР

Літва выступіла **супраць Алега Газманава**.



У 2008-м у Літве забаранілі савецкую сімволіку. Цяпер літоўскія палітыкі пайшлі вайною на расійскага выканаўцу Алега Газманава і яго песню «Сделан в СССР». Літоўская кансерватарка Раса Юкнявічэне запатрабавала забараніць Газманаву ўезд у Літву і абвесціць яго персонай нон-грата.

Падставай для такой жорсткай рэакцыі стала кампазіцыя Газманава, у якой спяваецца, што «Прыбалтыка — гэта мая краіна». Да таго ж выкананне гэтай песні на канцэрце, прысвечаным 20-й гадавіне прыняцця расійскай канстытуцыі, паводле Юкнявічэне, надало песні палітычную падаплёку.

Сам Газманаў, у якога 29 снежня мусіць адбыцца канцэрт у Вільні, кажа, што вельмі любіць Літву , а яго песня напісана 10 гадоў таму пра краіну, дзе нарадзіўся ён сам.

Дарэчы, у песні «Сделан в СССР» у самым першым радку разам з Украінай, Крымам і Малдовай узгадваецца і Беларусь.

**Кірыла Хілько**

## Сцісла

### 260 дзвярэй з пазалотай у Палацы Незалежнасці

Падмаскоўная кампанія, работнікі якой працавалі на будоўлі новай прэзідэнцкай рэзідэнцыі «Палац Незалежнасці» ў Мінску, расказалі пра выкананыя работы. Агульная плошча пакладзенага паркету склала 3600 м², прычым кладка (без уліку матэрыялу) каштуе $300-2000 за м². Таксама было выраблена 260 дзвярэй, кожная з якіх абышлася бюджэту больш чым у $3000. Гэта раскошныя драўляныя дзверы вышынёй па 4 м з разьбяным арнаментам, упрыгожаным пазалотай.

### Яшчэ адзін смяротны прысуд

Асуджаны — 53-гадовы грамадзянін Расіі Эдуард Лыкаў. Яму інкрымінавана пяць эпізодаў забойства ў стане алкагольнага ап’янення. Пад следствам ён знаходзіўся з 2011. Лыкаў не меў сталага месца жыхарства, але падтрымліваў кантакты з маці, якая жыве ў Баранавічах. Ягоны сын жыве ў Расіі, дачка — у Германіі, але з дзецьмі асуджаны адносінаў не мае.

**ЯМ**

# Вайцюшкевіч запісаў альбом шансона «Варанок»



Супольная праца Вайцюшкевіча, Генадзя Бураўкіна і (на адну песню) Уладзіміра Някляева — альбом беларускага шансона «Варанок», размова пра які ішла два гады, у рэшце рэшт выйшаў.

«Гэта песні пра чалавека за сорак, які разумее, што няправільна пражыў жыццё, — кажа Вайцюшкевіч. — Калі ў інтэрнэце з'явіліся першыя песні з «Варанка», мне патэлефанавалі кабацкія музыкі з Магілёва, якія пыталіся, ці можна ім спяваць гэтыя песні».

У выніку атрымаўся зборнік з дванаццаці песняў — часам кранальных, часам смешных, часам проста турэмных. Купляючы «Варанок», не разлічвайце пачуць на ім беларускі аналаг «Муркі» ці «Раз у Растове-на-Доне», гэтага там не будзе.




Ці будзе ён цікавы аўдыторыі радыё «Шансон»? Наўрад ці, усё ж Бураўкін і Вайцюшкевіч надта інтэлігентны у любым разе ў іх атрымалася складанка песняў «для галавы», чым цяперашні шансон пахваліцца не можа. З іншага боку, для блатной песні, якую, па словах Вайцюшкевіча, спяваюць усе беларускія барды, не хапае звыклай для жанру неахайнасці — Вайцюшкевіч у студыі спявае на поўным сур'ёзе, не тое, што на канцэртах. Тым не менш «Рызыканты» альбо «Дачакайся, матуля» могуць папоўніць наступны зборнік «выбранага» ад спевака.

Сярод моцных момантаў альбома — удзел духавой секцыі Apple Tea і найлепшага джазавага піяніста краіны Аляксея Гарачага.

**Юрась Ускоў**

**Фотафакт**




**У Мінску адкрываецца бар «Тутэйшыя» са зніжкамі для беларускамоўных. Бар размесціцца па адрасе вул. Карла Маркса, 21 (суседнія дзверы з піцэрыяй «Перчык»). Цэны абяцаюць быць не самымі высокімі.**

# Зязюля — птушка 2014 года

Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» выбрала птушкай 2014 года зязюлю звычайную.

Галоўная мэта кампаніі — прыцягнуць увагу насельніцтва да хараства прыроды і птушак, што жывуць вакол нас. У мінулыя гады сімваламі Беларусі былі: белы бусел, белая пліска, авяльга, дамавы верабей, гарадская ластаўка, барадатая кугакаўка, кнігаўка, звычайны салавей, вялікая белая чапля, шэрая гусь, сокал-пустальга, вялікі кулён, чорны свіргуль, удод.



### Сем цікавых фактаў пра зязюлю

1. Кукуе толькі самец. Голас самкі падобны да чалавечага рогату.
2. Самкі ёсць двух відаў — шэрая і рудая.
3. Завостраныя крылы і паласаты малюнак на жываце падчас палёту робіць зязюлю падобнай да драпежнай птушкі. Дзякуючы гэтаму самец зязюлі палохае птушку-гаспадара гнязда, а ў гэты час самка падкідвае яйка.
4. Зязюлі хапае ўсяго 10-16 секунд, каб падкласці яйка ў гняздо.
5. Зязюля падкідвае яйкі ў гнёзды не ўсім відам птушак, але спіс «ахвяраў» налічвае больш за 100 відаў.
6. Падкінутыя яйкі амаль супадаюць па колеры з яйкамі гаспадароў гнязда. Самка зязюлі за адзін сезон можа адкласці ад 8 да 25 яек, праўда, на кожныя 5 падкінутых яек вырастае толькі адно птушаня.
7. Зязюля — дальні мігрант. Узімку яна ляціць у Афрыку. Ляцяць птушкі часцей за ўсё не чарадой, а паасобку.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Пра тросы і гальштукі

Дачакаўся, стары ідыёт — «Рэ-ва-лю-цы-я! Рэ-ва-лю-цы-я!..»

Рэ! — трос на шыю... Ва! — цягні ўбок... Лю! — нахіліўся... Цы! — бразнуўся вобзем... Я-а-а! — кувалдай, кувалдай па ім, на кавалачкі...

Зрэшты, не толькі стары ідыёт, але шчэ вельмі карысны. Бо журналіст, то бок інтэлігент. А інтэлігенты, паводле Леніна, вельмі «карысныя ідыёты»...

Дык вось, у якасці інтэлігента я наведаў аднойчы матроса з «Аўроры». Было яму, мусіць, добра за восьмы дзясятак, а звалі Тадэвушам. Дачка цягнула яго з-пад гары коўдраў на цёплай ляжанцы, угрэты, ён не хацеў злазіць. І, хаваючы твар ад асляпляльнага прамяня красавіцкага сонейка, што праз акенца прабіваўся ў хату, мармытаў: «Ездзюць тут, ездзюць...»

Шчэ жывых матросаў з «Аўроры», якія «бачылі Леніна», на той час распладзілася нашмат болей, чым служыла на рэвалюцыйным крэйсеры. Але мой быў сапраўдны. Доказ вісеў на сцяне пад шклом у агульнай для ўсёй сямейнай фотагісторыі рамцы — са старога зжаўцелага здымка ўперыўся напружаным поглядам хлопец у бесказырцы з «Аўрорай».

«Бачыў, бачыў, — стары звесіў з ляжанкі босыя ногі, — маленькі такі, рыжаваты... Усё зямлю абяцаў...» — «А гэта хто?» — на здымку побач — бравы жаўнер пры шаблі і ў канфедэратцы трымае каня. Стары прыжмурыўся: «Дык гэта пры Польшчы, у войску...» — «А гэта?» — «Гэта...». Дзядок нешта намогся адказаць, але дачка замахала рукамі: «Маўчы ўжо, нагаварыўся... Я сама адкажу. Гэта ён як з лагера вярнуўся... Не хацеў, дурань, пасля вайны ў калгас ісці, у лес падаўся... На следстве ўсё пра Леніна згадваў, як той зямлю абяцаў...»

Раптам бразнула засаўка, і праз адчыненыя дзверы ў хату ўварваўся нястрымны подых вясны. Дзяўчынка, гадоў, мусіць, пятнаццаць, паклала ля печы дровы, адчыніла шафу і дастала адтуль пінжак з нейкімі бліскучымі цацкамі: «Дзядуля, хутчэй апранайся, там да цябе піянеры прыйшлі, хочуць, каб на стагоддзе Леніна ты ім гальштукі павязаў...»

## Маленькі Ленін стаяў на пастаменце, дзе калісь быў помнік сабаку

Гальштукі...

За сем гадоў да знаёмства з дзедам Тадэвушам я працаваў у тых мясцінах настаўнікам і часцяком наведваўся ў старадаўняе мястэчка О. да сяброў, таксама настаўнікаў. Школа-інтэрнат месцілася побач з былым маёнткам славутых Плятэраў, і дзеці жылі ў паўразваленым палацы за магутнымі ліпамі старога парку.

Пасярод парку стаяў маленькі Ленін. Дакладней, пяцігадовы, паводле ўсім вядомага на той час здымка, кучаравы хлопчык, пафарбаваны ў бруднаваты, сям-там запэцканы белы колер. На шыі цьмяна чырванеў піянерскі гальштук, яго не мянялі, і ён ад дажджоў, марозаў і спёкі нагадваў хутчэй брудную анучку, чымсьці натхняльны сімвал. Ніхто не звяртаў на тое ўвагі, а ўзімку інтэрнатаўскія пацаны забаўляліся з маленькім Леніным у сняжкі...

А маленькі Ленін стаяў на пастаменце, дзе калісь быў помнік сабаку. Той сабака загрыз звар'яцелага ваўка, што доўгі час трымаў у страху ўсё мястэчка. Загрыз, але і сам загінуў ад ран.

Калі зрынулі таго сабаку і паставілі маленькага Леніна, здагадацца не цяжка. Але на пастаменце яшчэ доўга прабіваліся праз бруднаватую фарбу сляды даўняга надпісу — «О, псе!»

Ну, а потым і маленькага Леніна прыбралі — мусіць, цягнулі за гальштук...

Дык што ж карыснага ва ўспамінах «карыснага ідыёта» для сучасных р-р-рэвалюцыянераў, якія мараць пра «дзень, калі мы закінем тросы на статую крывавага ідала і... зрынем гэтага вернага слугу д'ябла з нашай зямлі. Зрынем, як гэта зрабіў... украінскі народ» ?

Мо толькі напамін пра тое, што гісторыя куды мацнейшая за кувалду. А народ, калі ён Народ, куды мацнейшы за натоўп.

Зрынуць за тросы «крывавага ідала» значна прасцей, чымсцягнуць брудны чырвоны гальштук з шыі краіны. Дзеля чаго трэба многа і цяжка працаваць. Ствараць НАРОД. А не бегаць з кувалдамі ды тросамі...

Тым, хто ўсё мацней зацягвае гэты гальштук, толькі і патрэбна, каб уся моц супраціву сышла ў помслівыя кувалды па мёртвым камяні і кавалкі на памяць. То бок у гульню на сняжкі. Самі яны даўно пазбавіліся чырвонага гальштука, забыліся толькі аддзячыць народам, што моўчкі аддалі ім зямлю і волю.

Вось адна з найкарыснейшых высноў з XX стагоддзя — нельга пабудаваць прыдатную і прывабную для жыцця краіну з дапамогай кувалдаў.

Але ж у якую бездань паміж стагоддзямі абрынулася гэта народжаная з крыві мільёнаў ахвяр выснова?!

У якой бездані паміж стагоддзямі згінула разуменне таго, што з-пад кувалдаў нараджаюцца новыя леніны, з ленінаў — сталіны, са сталінаў — гітлеры... А з кавалкаў раструшчаных помнікаў — новыя помнікі пераможцам у рэвалюцыях і войнах...

Па мне, дык нельга ставіць помнікі пераможцам.

Толькі ахвярам. І тым, хто ахвяруе сабой.

Сабакам і людзям.

*kamerton_41@mail.ru*

Імя 25-гадовага Яўгена Бойкі прагучала ў СМІ, калі ён на канферэнцыі Нацыянальнай платформы Форуму грамадзянскай супольнасці ў Мінску прапанаваў план «Плошчы-2015». Яго стратэгія прывядзе да перамен у краіне, упэўнены хлопец. Калегі крытыкуюць яго за рамантызм. Хто такі Яўген Бойка і што ў яго за смелыя прапановы?

Яўген называе сябе «звычайным беларускім хлопцам». Нарадзіўся ў Магілёве. Яго бацька з Заходняй Беларусі, матуля — з Магілёўшчыны. «Кожнае лета мяне вазілі ў вёску да бацькі на Заходняе Палессе, пад Маларыту. На ўсё жыццё запомніліся вясёлыя людзі, іх гаворка і песня «Ты ж мэнэ підманула». У школе я нават казаў замест «ён» — «він», настолькі паўплывала гаворка Палесся».



# Яўген Бойка: У 2015-м людзі будуць патрабаваць зямлі і волі

### Выступаў за справядлівасць

Я быў трохі хуліганам, у школе хіба раз на месяц быў тыдзень, калі прыносіў дзённік без заўваг. Але заўсёды выступаў за справядлівасць. Савецкія мульцікі прывучылі да пошуку і абароны справядлівасці.

### Высоцкі і Караткевіч — прыклад неасуджэння

Бацькі заўсёды давалі мне свабоду выбару. Яны ў мяне не беларускамоўныя, але кніжку Караткевіча я ўпершыню пабачыў у руках матулі. Калі ў 9-м класе пачаў чытаць яго, гэта стала кропкай адліку па змене майго жыцця. Высоцкі і Караткевіч — дзве асобы, якія для мяне з самага дзяцінства засталіся прыкладам стаўлення да людзей і неасуджэння навакольнай рэчаіснасці.

**Што такое Нацыянальная платформа?**

Ва «Усходнім партнёрстве» ўдзельнікі прадстаўлены на ўзроўні кіраўнікоў краін. Паколькі беларускія ўлады цураюцца інтэграцыі з Еўропай, Беларусь прадстаўленая Нацыянальнай платформай Форума грамадзянскай супольнасці. У яе ўваходзяць сотні грамадскіх арганізацый, якія каардынуюцца дзеля набліжэння Беларусі да еўрапейскіх стандартаў.

### Якія подпісы, за каго подпісы — я не ведаў

Маё жыццё шмат у чым вызначыў Караткевіч. Я паступіў на гістфак нашага МДУ. На першым курсе да мяне падышлі хлопцы са старэйшых курсаў і прапанавалі ісці збіраць подпісы. На двары 2005 год. Я тады ўвогуле не разбіраўся ў палітыцы. Якія подпісы, за каго подпісы — я не ведаў, але клікалі добрыя хлопцы, таму пайшоў. Пасля даведаўся, што подпісы за Мілінкевіча. Пачытаў пра яго, схадзіў на яго сустрэчу з выбаршчыкамі. З цягам часу прыйшло разуменне дзяржаўнай пазіцыі і апазіцыі.

### Матуля замкнула мяне дома

Спачатку бацькі скептычна ставіліся да таго, што я раблю. У 2006 матуля нават замкнула мяне дома, каб не паехаў нікуды, але пасля адпусціла, і я паехаў на Плошчу. А ў 2011, падчас «маўклівых акцый», матуля сама ездзіла на машыне з песняй «Перамен» і пляскала з народам.

### Адлічылі на трэцім курсе

На трэцім курсе мяне адлічылі. Спрабавалі і раней, але выкладчыкі не давалі. У выніку мяне адлічыла кафедра замежных моваў. Цяпер я давучваюся ў Польшчы і дапісваю магістарскую працу.

### Беларусы знайшлі выйсце

Ва ўніверсітэце наш выкладчык рабіў этнаграфічныя вандроўкі па Магілёўскай вобласці, у якіх я з асалодай браў удзел. Падчас тых экспедыцый пераканаўся, што не ўсё ў нас так песімістычна. Я пабачыў на ўласныя вочы, што беларусы — гэта народ, які ўмее добра трымацца, гуляць, танчыць, дурэць. Нашыя застоллі самыя крутыя. Беларусы, увесь час трываючы, знайшлі выйсце ва ўнутранай культуры.

### Гэта не страх вядомага, а страх невядомага

Першы мой досвед Плошчы адбыўся ў 2006 годзе. Тады на другую ноч, калі нехта сказаў, што едуць КамАЗы, поўныя вайкоўцаў, і будзе разгон, мне стала страшна. Гэта быў страх невядомага. Я не ведаў, за што баць, за жыццё, за здароўе ці за лёс блізкіх. І тады я выйшаў да мікрафона і сказаў, што ўсё добра, гэта грузавікі вязуць валідол да Адміністрацыі прэзідэнта, бо там усім кепска стала. Такім чынам супакойваў сябе.

### Ні ў 2006, ні ў 2010 Плошчы не было

Плошча не арганізоўваецца ў дзень выбараў. У гэтым сэнсе ні ў 2006, ні ў 2010 Плошчы не было.

### Кажыце, што трэба рабіць

У 2010 не было нават нейкага падабенства Плошчы, дзевяць лідараў не змаглі ні пра што дамовіцца і нешта арганізаваць. У выніку, шмат хто адчуў боль і расчараванне пасля разгону. Мне нядаўна сказалі, што быццам бы апазіцыйныя лідары рыхтавалі блакаванне чыгуначнага вакзала. Пра гэта ніхто не ведаў. Яны не маглі кіраваць натоўпам. На Плошчу мае выходзіць не натоўп, а народ. Людзі гатовыя да самаарганізацыі.

### Рух, які вынясе лідара

Лідары паўстаюць, калі ёсць адпаведны клімат. Цяпер яго няма. Я спадзяюся, адпаведны клімат узнікне бліжэй да выбарчай кампаніі. Патрэбны грамадска-палітычны рух, які вынесе лідара.

### Хопіць недаацэньваць свой народ

Галоўны складнік Плошчы — людзі. Можна напісаць супермега-праграму, план і стратэгію, але калі вы прыходзіце на сустрэчу з людзьмі і не можаце іх натхніць, калі яны бачаць пагарду ў вашых вачах — нават не бярыцеся за справу. Многія апазіцыянеры, як і людзі ўлады, прыніжаюць народ, лічаць яго ні на што не здольным. Так нічога не выйдзе, хопіць недаацэньваць свой народ.

**Яўген Бойка**

Нар. 10 лістапада 1987 у Магілёве. Грамадскі актывіст. Адлічаны з Магілёўскага дзяржуніверсітэта за палітычную дзейнасць. Цяпер вучыцца ў Польшчы па спецыяльнасці «Гісторыя».

### Любоў да чалавека — мэта

У нашых умовах трэба займацца не палітыкай, а асветай. Самая галоўная наша мэта, як казаў яшчэ Гавал, — гуманізацыя адносінаў. Любоў да чалавека — гэта мэта. Усе адносіны: дзяржава-чалавек, чалавек-дзяржава, чалавек-чалавек — павінны быць як мага больш гуманнымі. А ўсё гэта магчыма праз стварэнне адкрытай грамадзянскай супольнасці.

### Партыі будуць марыць далучыцца да нас

Магчыма, я выглядаю вельмі дзёрзкім і самаўпэўненым, але я проста адчуваю ўнутрана, што ўсё ўдасца. Той, хто будзе дзейнічаць у 2015-м, атрымае такую падтрымку, што партыі будуць марыць далучыцца да нас.

### Ніякай агрэсіі

Пры барацьбе за свабоду ні ў якім разе нельга рабіць агрэсіўных дзеянняў.

Я гатовы ўзяць адказнасць за Плошчу. Я проста люблю народ і люблю краіну, сваю Радзіму. Падчас этнаграфічных экспедыцый я бачыў нізы, я бачыў бесперспектыўнае жыццё, бачыў, як співаюцца мае сябры і знаёмыя. Але нават у сукупнасці з гэтым я ўсё гэта люблю. Бо гэта Беларусь, а я адзін з тысячы, хто не можа адмовіцца ад змагання за Беларусь.

### Без свабоды не будзе хлеба

Самы галоўны пасыл — «Хлеба, солі, зямлі, волі!». Янка Купала аб'ядноўвае ў ім матэрыяльныя патрабаванні з каштоўнаснымі, і гэта справядліва. Без свабоды не будзе хлеба.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Анамальная зона ў Гомелі?

У новым будынку «БелНДПІнафта» на вуліцы Кніжнай завяліся прывіды.

Час ад часу ахоўнікі чуюць нейкія гукі, спрацоўвае сігналізацыя, уначы нехта стогне, плача, нечым грукае — такія чуткі паўзуць у Гомелі. Абсталяванне нібыта само сабой выключаецца і псуецца, водаправод прарывае, электрычнасць замыкае. Пры абходзе тэрыторыі супрацоўнікі нікога і нічога не знаходзяць.

Нікога — маецца на ўвазе таго, хто мае фізічнае цела. Людзі пераказваюць адзін аднаму страшныя гісторыі, ужываючы такія тэрміны, як «чорная дзірка», «анамальная зона», «негатыўная энергетыка».

Гісторыя ж Кніжнай — гэта дзівоснае перапляценне фактаў, рэальных і містычных.

Па-першае, раён гэты раней называўся Каўказ. Кажуць, што так яго за ўзгорыстую мясцовасць назваў расійскі граф Паскевіч. Навукоўцы ж кажуць, што назва Каўказ можа паходзіць ад трансфармацыі старабалцкага слова «капкас», «каўкарус», што ў перакладзе абазначае «пагорак бажкоў».

Або Каўкас — хтанічная істота (істота, звязаная з сілай зямлі). Імаверна, на гэтай гары некалі

## Косткі адкопвалі пры кожным руху экскаватару

стаялі паганскія ідалы. Пра такую версію пішуць аўтары «Сакральнай геаграфіі Беларусі». Праўда, так тлумачыцца назва вёскі ў Крупскім раёне.

Гомельскі «Каўказ» быў у пачатку XX стагоддзя месцам жыхарства беднякоў, цыганоў і злачынцаў. Некаторыя крыніцы падаюць, што нават царская паліцыя не рызыкавала наводзіць тут парадкі. А дзе злачынцы — там і вязніца.

Раней, за расійскім царом, на Кніжнай была турма. Потым, у час вайны, тут месціўся лагер «ДУЛАГ-121», дзе загінулі 100 тысяч чалавек як найменш. Пасля вайны на Кніжнай паўстаў следчы ізалятар.

Калі на Кніжнай будавалі дамы, то косткі адкопвалі пры кожным руху экскаватара. Але мемарыял тут не з'явіўся. Адзінае, што нагадвае пра тысячы ахвяр вайны, — сціплая шыльда на фабрыцы «Праца»: «Тут былі забіты 100 тысяч чалавек».

Гісторыкі спрачаюцца наконт дакладнага размяшчэння лагера. Ёсць версія, што сам лагер быў на месцы швейнай фабрыкі «8 Сакавіка», а будынак інстытута «БелНДПІнафта» пабудавалі на месцы могілак, куды немцы звозілі забітых.

Побач з «8 Сакавіка» і фабрыкай «Праца» — плошча Паўстання. Амаль штонядзелю тут праходзяць кірмашы, канцэрты, шашлыкі, распродажы.

Жыхар Кніжнай Кастусь Жукоўскі лічыць, што «так жыць нельга». «Памяць продкаў занядбана, 100 тысяч людзей тут пахавана, пад гэтым асфальтам у тым ліку. І кожную нядзелю — танцы, забавы. Кроў людская — не вадзіца. Таму нешта там грукае, плача ў будынку «БелНДПІнафты», што няма супакою нявінным душам », — тлумачыць ён.

Сваю версію ненармальных з'яў на Кніжнай маюць эзатэрыкі. Напрыклад, праблему з'яўлення ў будынку нейкіх целаў, якія плачуць, стогнуць, грукаюць і перашкаджаюць працы абсталявання, вывучаў прафесар Гомельскага ўніверсітэта імя Скарыны Аляксандр Рогалеў, які займаецца філасофіяй мовы, анамастыкай і эзатэрычнай лінгвістыкай.

Прафесар Рогалеў лічыць, што прычына неспакою зданяў,

## «Прычына неспакою зданяў, ці душ забітых людзей, — не толькі канцлагер»

ці душ забітых людзей, — не толькі канцлагер. «Гэта звязана з геамагнітнай анамаліяй у дадзеным месцы. Уся вуліца Кніжная і прылеглая да яе тэрыторыя — адмоўнае «месца сілы», — упэўнены прафесар.

Гісторыю Кніжнай і Каўказа навуковец даследаваў пры падрыхтоўцы кнігі «Ад Гаміюка да Гомеля. Гарадская даўніна ў фактах, імёнах, асобах».

Па меркаванні Аляксандра Рогалева, у раёне Каўказа ёсць падземныя пустэчы і пячоры, якія маглі з самых старажытных часоў выкарыстоўвацца як месца здзяйснення розных містычных культаў.

Прафесар Рогалеў упэўнены, што мінулае ніколі не сканчаецца і не знікае. Месца неаддзельнае ад тых, хто з ім звязаны зараз ці быў звязаны раней. Яно абавязкова ўтрымлівае энергетычныя сляды знаходжання. У выпадку з вуліцай Кніжнай — сляды канцлагера.

«Тое, што адбываецца тут, гэта знак, сэнс якога яшчэ трэба зразумець», — мяркуе Рогалеў.

Можна дадаць: як і ўся беларуская гісторыя, урок якой мы ніяк не можам вывучыць — ушанаваць усіх ахвяр.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

# Палавінчаты — значыць ніякі

Прачытаў інтэрв'ю з праваабаронцам Валянцінам Стэфановічам «**Я беларускамоўны, і дзеці мае беларускамоўныя**» ў №45 ад 4 снежня.

Ягоную заяву можна толькі шчыра вітаць. Але ў адказах Стэфановіча ёсць не менш як бочка дзёгцю на лыжку мёду. А менавіта тое, што ён увогуле прызнае так званае двухмоўе ў Беларусі.

Прызнаць гэтае двухмоўе — значыць змірыцца з расійскім палонам, а беларускі народ назваць рабамі Расійскай Імперыі. Шматмоўе можа існаваць толькі ў каланіяльна залежных краінах альбо ў федэратыўных і канфедэратыўных. Патрэбна цвёрда ведаць, што Беларусь — унітарная дзяржава. Таму ў Беларусі аб так званым двухмоўі і гаворкі быць не можа, бо гэта абсурд. Ва ўнітарных краінах увогуле не могуць праводзіцца рэферэндумы для ўвядзення ў гэтых краінах чужой мовы са статусам дзяржаўнай.

Хіба можна ўявіць, каб, напрыклад, Польшча правяла ў сябе рэферэндум і зрабіла другой дзяржаўнай мовай нямецкую?

Таму рэферэндум 1995 года быў антыбеларускі, антыканстытуцыйны, маральна злачынны. Гэта было найвялікшае дзяржаўнае злачынства ў гісторыі нашага народа. Пас-

## Шматмоўе можа існаваць толькі ў калоніях або федэрацыях

ля любых знішчальных войнаў нацыя выжывае, а вось пасля знішчэння мовы народа нацыя ўжо не ўваскрасае — гэта аксіёма. Таму дзіву даешся, як такія людзі, накшталт спадара Стэфановіча, а іх даволі шмат, спакойна ставяцца да такога абсурду — двухмоўя.

Варта ўзгадаць словы Кастуся Каліноўскага, які з-пад шыбеніцы выгукнуў: «Толькі тады, народзе, зажывеш шчасліва, калі маскаля над табою будзе!» З таго часу прайшло 150 гадоў, але так нічога не змянілася і не зменіцца, пакуль кожны з нас не ўспрыме словы Каліноўскага як малітву і заклік да свайго ўласнага жыцця.

**Афіцэр у адстаўцы Мікола Канаховіч, Пружаны**

# Дабравест

*Абаронцам Волі і Чалавечнасці, што сталі і стаяць на Майдане, ад беларуса.*

Дабравест разганяе адліжны туман.
Адступілі ліхія прыгоды!
У пагрозлівым матчы не здаўся Майдан!
Сьвята ў сэрцах фанатаў Свабоды!
На трыбунах — не ў полі, дзе кат і герой…
Але з радасцю вылечыць гланды:
Перамога, спадарства!
— Няхай не сваёй,
Але дужай і годнай каманды!

**Рыгор Шэрда**

# Нэльсан Мандэла

Не памёр зусім Мандэла.
Проста адказала цела.
Ну, а справа, гонар, годнасць
Атрымалі несмяротнасць.

**Даслаў Кнехт праз каменты на nn.by**



# Кадравы і кар'ерны, а таксама смех з Азарава

Сустрэў у артыкуле «НН» № 45 выраз «кар'ерных» афіцэраў. Пра афіцэраў ужываюць штамп «кадравы», а не «кар'ерны».

Датычна ж смеху з няведання прэм'ерам Украіны Азаравым украінскай мовы трэ быць абачлівым. Што эмацыйна ў адной мове, зусім звычайна і нясмешна ў другой. Няўдала гэта. Зрэшты, такая псеўдакантамінацыя — вынік кепскага гадавання і няведання мовы. (Расейскія камунякі ўбачылі ў лозунгу «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» намёк на скаталожства, а вось беларусы моўчкі жуюць слова «сера» — бацька сера, сын рагоча, абрэвіятура БССР — і не пратэстуюць супраць хамства.)

**Мікалай Бусел, народны чытака і селькар (Дуброва, Светлагорскі раён)**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

# Якімі яны былі ў маладосці?

Фотаздымкі **вядомых палітыкаў** тады і цяпер.




**Зянон Пазняк**, заснавальнік Беларускага Народнага фронту.




**Аляксандр Лукашэнка**, кіраўнік Беларусі.




**Юлія Цімашэнка**, былая прэм’ер-міністр Украіны.




**Барак Абама,** прэзідэнт ЗША.




**Барыс Ельцын**, былы прэзідэнт Расіі.




Міхаіл Гарбачоў, апошні прэзідэнт СССР.




**Фідэль Кастра**, лідар кубінскай рэвалюцыі.




**Біл Клінтан**, былы прэзідэнт ЗША.

# Мінск. Сем

Ксенія Шталянкова.
Апавяданне.

**25 снежня, серада.**
**Сямейная ялінка**

Нарэшце тата ўцягнуў у кватэру агромністую, пухнатую ялінку, якая зухавата павыстаўляла колкія галінкі ў бакі. Гектар залівіста забрахаў на незразумелы зялёны аб'ект, які палічыў захопнікам ягоных законных уладанняў. Ён нават наважыўся кінуцца на ворага, але пакалоў іголкамі маленькі чорны нос і, абурана буркочучы, рэціраваўся ў кухню. І адтуль, седзячы ў бабулі на тэпцях, назіраў, як мы з татам ладзім ялінку да падстаўкі.

— Гантэлі давай, — загадаў тата, і я кінулася выцягваць іх з-пад канапы, каб умацаваць нашу канструкцыю.

— Яна ў вас крыху налева нахіляецца, — прайшла міма са святочным посудам у руках матуля.

— Ды нармальна, — падміргнулі мы з татам адно аднаму і трохі пасунулі ялінку да шафы — так, на ўсялякі выпадак.

Тата скокнуў на крэсла, каб абрэзаць верхавінку, што падпірала столь, а я пачала распакоўваць мішуру і цацкі.

— З лямпачак? — па-змоніцку пытаецца тата.

— З лямпачак! — рапартую я, і мы пачынаем аперацыю па ўпрыгожванні.

— Праз дваццаць хвілін баба Шура прыйдзе, а ў мяне нічога не гатова! — зноўку пачуўся матульчын голас.

— Кідай усё і прыходзь да нас упрыгожваць! — клічам мы яе.

— Ага, кідайце ўсё і прыходзьце да мяне гатаваць! — передражнівае нас мама.

— Дайце я таксама штосьці павешу, — далучылася да нас бабуля. — А то праўда, зараз баба Шура прыйдзе, а вы толькі пачалі.

Выхопліваючы з-пад носа ў таты з бабуляй самыя прыгожыя цацкі, я шпарка рухаюся паміж ялінкай і кардоннымі скрынкамі.

— Ну куды ты іх у самы глыб вешаеш?— дакарае бабуля і перавешвае за мной амаль кожны шарык.

— Так, Пятроўна, не парушайце святочны працэс! Няхай вешае, як хоча, — абараняе мяне тата.

Раптам зазвінеў дамафон. Мы ледзь не павыпускалі з рук цацкі. Гектар зноўку забрахаў. Бабуля пабегла адчыняць, а я і тата пачалі спехам накручваць на ялінку мішуру.

— Ну што ў вас? Ой, якія малайцы, прыгожа як! — ухваліла нас матуля, раптам з'явіўшыся ў гасцёўні. — А ваду вы налілі?

— Добры дзе-е-ень! — працягла павіталася, зазіраючы да нас, баба Шура. — О-о, якая ў вас ялінка...

Мы ўрачыста паглядзелі на яе, поўныя гонару за зробленую справу. Баба Шура падышла да ялінкі бліжэй і прынюхалася.

— Прыгожая. Толькі катбмі смярдзіць, — пастанавіла яна і паважна прайшла да святочнага стала.

**26 снежня, чацвер.**
**Самотная ялінка**

Зноў кідаецца па снезе са сваім брахасцікам.

Брахасцікам-блыхасцікам.

Як можна ўвесь час мець такі аптымістычны выгляд?

Хаця, не дзіва: учора ж цягнулі дамоў ялінку. Святочны настрой, усё такое.

А ў яго дома няма ялінкі. І ўвогуле ў кватэры паўпуста. Дый ён адзін. Учорашняе свята ў ягонай сям'і не адзначаюць, а на Новы год нават да бацькоў не падасіся: яны едуць у рамантычную вандроўку ў цёплую краіну. Без яго. Бо якая яна будзе рамантычная, калі яны возьмуць свайго недарэчнага пераростка.

Хаця чаму недарэчнага? У прынцыпе, даволі-такі дарэчнага. Толькі незразумела, дзе і з кім святкаваць, што святкаваць, ды ці святкаваць увогуле...

Трэба адыходзіць ад акна і брацца за праект. На самой справе, яго ўжо даўно трэ было скончыць...

Немагчыма працаваць у такіх умовах. Ва ўсіх пачаліся святы, а ў яго дома пуста і змрочна.

У пакоі двое: ён і штатыў.

Вось з ім ён і будзе сустракаць Новы год...

Стоп.

Штатыў?

Дзесьці ў яго валяліся рознакаляровыя вялізныя аркушы. Ці ёсць там зялёны? Ёсць! Закруціць конусам вакол штатыва, заляпіць знутры скотчам — шыкоўна!

Не хапае цацак. Востра не хапае цацак. Дзе ўзяць цацкі? У краме... Паўгадзіны на метро туды-назад. Паўгадзіны, каб выбраць... Нармальна.

Карацей, праект пачакае...

У цэнтры ўсё такое святочнае, людзі ўзрушаныя, радуюцца. Калі паспелі ўбраць горад? Ці гэта ён проста не заўважаў? Трэба часцей азірацца па баках, а не сабе пад ногі ўглядацца.

Так, цацкі: белыя ці чырвоныя? Дзяўчына перад ім паспела забраць апошнія чырвоныя. Ну і халера на іх, возьме белыя.

О, а яны ўвогуле не белыя, а нейкія серабрыстыя.

А можа ўзяць яшчэ і лямпачкі? Адназначна!

Пакуль вярнуўся дамоў, на вуліцы сцямнела. Запаліў у хаце святло, папрыклейваў шарыкі і зорачкі да зялёнай паперы, накруціў лямпачкі, уключыў. Усё ззяе, пераліваецца. Прыгожа.

А калі выключыць верхняе святло? Яшчэ прыгажэй.

Атрымалася нават неяк падызайнерску. Проста-такі артаб'ект. Глядзіце, зайздросце! Сфоткаць і ў Кантакт.

Цяпер і яго вокны прыемна зіхацяць у прыцемку.

А зараз можна і за праект.

Не, спачатку пад'есці.

**27 снежня, пятніца.**
**Сюрпрыз-ялінка**

«Ну, вось. Уладзік прыйдзе — а ў нас дома ўжо свята», — заўсміхалася сама сабе Кацця, папраўляючы на маленечкай туйцы, якую яны разам купілі, калі засяліліся ў гэтую кватэру, чырвоны банцік, што замяняў традыцыйную зорку. Не дарма яна ўчора пасля працы заскочыла ў ЦУМ па цацкі. Паспела забраць апошні чырвоны набор. А то гэтыя серабрыстыя былі нейкія халодныя, няўтульныя. Няхай яны застаюцца змрочным недарэкам, кшталту таго, што цэліў перахапіць яе здабычу... А чырвоненькія выглядаюць па-хатняму. І да банціка выдатна пасуюць.

«Нашая першая ялінка», — летуценна падумала Каця і нават засмяялася: якім ружовасалодкім глупствам, пэўна, выглядаюць яе намаганні збоку. Ну, а што, і ружова-салодкаму глупству ў побыце адведзенае важнае месца ў жыцці!

Добра, што сёння яна прыйшла крыху раней за Уладзіка і ўсё паспела. Хочацца ж сюрпрыз зрабіць. Насамрэч, яны дамовіліся, што не будуць ставіць ялінку. Дакладней, у яе дома ставілі кожны год, а Уладзік сказаў: «Ніякіх леташніх іголак у тэпцях». І праўда, няхай у іх дома ўсё будзе функцыянальна, пасучаснаму. Але крышачку свята не перашкодзіць.

Каця схапіла туйку-ялінку і, пратанчыўшы да кухні, паставіла яе на стол.

Утульненька. А зараз можна і за вячэру. Яна паставіла ваду на макароны і спрытна ўзялася за запраўку. Трэба і тут прыдумаць штосьці цікавае, надаць звычайнай страве трохі святочнасці. Пачараваўшы з прыправамі, яна пакаштавала, засталася цалкам задаволеная і праверыла гадзіннік — нешта Уладзік затрымліваецца.

Каця пачакала дзесяць хвілін. І яшчэ дзесяць хвілін. І, робячы зніжку на ўсялякі выпадак, яшчэ дзесяць. «Ну што такое, ужо даўно час закідваць макароны, а ён дзесьці бадзяецца»,— з рамантычнага плюшавага зайкі Каця пачала ператварацца ў злоснага шаблязубага зайца. Яна схапіла тэлефон і набрала Уладзікаў нумар.

— Ну, ты дзе? — патрабавальна спытала Каця, калі Уладзік узяў слухаўку.

— Хутка буду, — сцісла адказаў ён, чамусьці крэкчучы.

— Ты давай хутчэй, а то ў мяне запраўка стыне, — паскардзілася Каця.

— Ага, — зноўку кракатнуў Уладзік і адключыўся.

— «Ага» і ўсё?! — абурылася Каця на згаслы дысплэй.

«Што ён там робіць? — падазрона падумала яна. — І дзе ён ўвогуле?!» Каця выключыла канфорку пад рондалем. Шаблязубы заяц унутры яе пачаў выказваць розныя непрыемныя здагадкі. Прайшло яшчэ хвілін дваццаць, запраўка састыла канчаткова і, калі Каця ўжо збіралася зноўку тэлефанаваць Уладзіку, пазванілі ў дзверы.

— Ну, толькі зайдзі, — бурчала Каця, намагаючыся ключом зрабіць балюча замку.

Яна рэзкім рухам расчыніла дзверы і ажно ўскрыкнула ад нечаканасці.

На парозе стаяла бамбізная елка з рэдкімі маркотнымі галінамі, прыпарошанымі сняжком, а з-за яе хітравата блішчэлі Уладзікавы вочы.

**28 снежня, субота.**
**Лёсавызначальная ялінка**

Тані было моташна. А пасля жыццярадасных расповедаў Кацькі ў скайпе пра яе Уладзіка і дзве неда-ялінкі — асабліва.

Сёння выхадны. Каляды прайшлі няўдала, праз тры дні Новы год. У Тані ўжо пяць месяцаў і два з паловай тыдні як разбітае сэрца і ніякага шчасця ў жыцці. На вуліцы снег, але і ад яго радасці няма.

Не хочацца брацца за працу, якую яна не паспела зрабіць за мінулыя дні. Для гэтага трэба ўключаць камп'ютар, а там пільнуе Каця са сваімі размовамі.

Не ведаючы, як быць і адкуль узяць добры настрой, Таня вырашыла заплесці касу. Тоўстая русая каса яе не раздражняла, а нават нагадвала пра ўласную вартасць. Але каму гэтая вартасць патрэбная? Таня цяжка ўздыхнула.

Раптам забомкаў тэлефон. Цёця.

— Танюшык, прывітанкі! Слухай, тут нешта Патрыку блага, баюся яго аднаго пакідаць, не збегаеш да аптэкі?

— Так, збегаю, — задушаным голасам пагадзілася Таня, тым больш што бегчы было цераз дарогу і назад — цёця жыла ў суседнім пад'ездзе.

— А ты што без настрою?

— Ды не, цёця, табе падалося.

Таня купіла лекі для Патрыка, што заўжды маяўся жыватом, хоць гэтыненажэра і не надта ёй падабаўся. Выйшаўшы з цётчынага пад'езда, яна вырашыла прайсціся да Батанічнага саду, бо вяртацца ў агідную кватэру ёй зусім не хацелася.

Яна падышла да будачкі, каб набыць квіток. Кабеціна, што сядзела ўнутры, зірнула на яе бы на вар'ятку, а потым махнула рукой, прапускаючы Таню без квітка.

Яна бадзялася без мэты па самотных алейках, пакуль раптам не выйшла да вялізных блакітных елак. Тут Таня прыгадала, што яшчэ не паставіла ялінку. Яна зладзеявата азірнулася па баках, падцягнула шалік да самых вачэй, і пайшла да елак. Ухапілася за самую пульхную галінку і рашуча трэснула ёй.

— Ага! Хапай злачынца!— пачула яна вясёлыя маладыя галасы.

З ніадкуль выраслі два расчырванелыя міліцыянеры, падхапілі Таню пад пахі і павалаклі ў пастарунак. Там яны адабралі ў яе ялловую галінку, назваўшы доказам злачынства, і пасадзілі дзяўчыну за краты, пакінуўшы яе ў паўнюткай цемры адну.

Таня ціха заплакала. Што ні рабі, нічога добрага не выходзіць. Зрабілася горача, і яна зняла куртку і шалік з шапкай, паклаўшы іх на лаву побач. Зноўку пачуліся галасы, мабыць хтосьці ішоў па яе?

— А чаго вы гірлянду не ўключаеце? — паміж кратаў яна ўбачыла, як малады высокі хлопец у міліцэйскай форме ўторкнуў у разетку шнур і на яго сталe замігцела рознакаляровымі агеньчыкамі маленькая штучная ялінка.

— Дык а чаго дарма святло паліць, таварыш лейтэнант! — развёў рукамі дзяжурны. — Тут цётку злавілі, блакітныя яліны ў Батанічным псавала...

— Гэта я цётка?! — ледзяным тонам ускліікнула Таня, склаўшы рукі на грудзях.

Таварыш лейтэнант павярнуўся на яе голас і ажно замёр. З-за кратаў на яго паглядала нясцерпна прыгожае вірлавокае Дзіва з доўгай касой, што залацілася на белым швэдры. Ён падышоў бліжэй і, узяўшыся за пруты, разгублена прамармытаў, расплываючыся ў дурасліваи усмешцы:

— Снягурка. Сапраўдная.

Тані ён таксама падаўся даволі сімпатычным.

**29 снежня, нядзеля.**
**Суседская ялінка**

— З надыходзячым, Адэлаіда Эдуардаўна! — суседскія хлопцы, якія неяк нечакана з дашкалятаў ператварыліся ў студэнтаў, цягнулі па лесвіцы ялінку.— Вы ўжо паставілі сваю?

— Ды навошта нам з Патрыкам?— сумна ўсміхнулася Адэлаіда Эдуардаўна. — Мы і так адсвяткуем.

— Як гэта навошта? — бадзёра выйшаў на лесвічную клетку яе сусед, майстар слясарных справаў Сцяпанавіч. — Свята ж хутка. Добры дзень, дарэчы.

— Добры. А вы паставілі?

— Ну, тут так выйшла, што мае ажно дзве выпадкова набылі. Я да іх учора якраз ездзіў, дык адну аддалі, я дадому і прывалок, — пачаў распавядаць рады суразмоўцу Сцяпанавіч. — Зараз вось не ведаю, чым упрыгожваць: цацкі ж усе аддаў сваім на новую кватэру.

— Святкаваць, пэўна, таксама да дзяцей паедзеце? — дзеля ветлівасці спытала Адэлаіда Эдуардаўна, зачыняючы века смецціправода.

— Ой, не, — адмахнуўся сусед. — Я ўчора падаруначкі ўсе падарыў, з унукамі нагуляўся, цяпер ужо толькі ў наступным годзе паеду... Яны там плануюць гасцей, цэлая праграма ў іх там, а я стараваты для такіх спраў. Таму дома буду адзначаць. А вы як?

— І я дома, будзем з Патрыкам святкаваць удваіх, — накіравалася да сваіх дзвярэй Адэлаіда Эдуардаўна.

— І што, без ялінкі?

— Відаць, без, — гаротна ўздыхнула суседка, топчучыся на парозе. — Ну, добра, з надыходзячым вас!

Яна зачыніла дзверы і яшчэ раз уздыхнула. Навошта рэціравалася? Запрасіла б суседа на гарбату, тым больш што чалавек прыемны, хоць і звычайны майстар. Ой, вось спрадвечная гэтая фанабэрыстасць музычнага работніка, праз якую і засталася адна. Самой агідна. А ў яго затое ялінка на свята будзе.

Дарэчы, дзесьці ў яе заставаліся цацкі. Адэлаіда Эдуардаўна рашуча ўзяла крэсла і палезла ў антрасолі. Праўда, ёсць. Яна здзьмула са скрыні пыл. А ці варта? Яна трохі павагалася, але, сустрэўшы ў люстэрку ўласны позірк, сама сабе кіўнула і паверанулася да дзвярэй. Не паспела ўзяцца за ручку, як хтосьці пазваніў.

— Хто? — строга спытала Адэлаіда Эдуардаўна.

— Хм-гм, сусед ваш, — нясмела адказаў з-за дзвярэй Сцяпанавіч.

Яна адчыніла. Сцяпанавіч, у касцюме і пры гальштуку, трымаў у руках вядро з ялінкай.

— Я тут падумаў, няхай яна лепей у вас будзе, тым больш што...



**Ксенія Шталянкова**

Нар. у 1992 у Мінску. У 2012 надрукаваны яе першы раман "Адваротны бок люстра", напісаны ў 16 год. Дыпламантка прэміі "Літаратурны дэбют-2012" імя Максіма Багдановіча, фіналістка конкурсу маладых літаратараў "Экслібрыс" імя Янкі Маўра. Вучыцца ў ЕГУ.

# калядных гісторый


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

— сусед збянтэжана апусціў вочы долу і неяк па-хлапечы паружавеў.

— А я якраз збіралася вам цацкі прынесці! Праходзьце, праходзьце хутчэй! — узрадавана залапатала Адэлаіда Эдуардаўна. — Стаўце ялінку ў гасцёўні, а я зараз чайнік пастаўлю...

Сцяпанавіч паставіў ялінку каля фартэпіяна і сціпла прысеў на краёчак канапы, на якой па-гаспадарску разваліўся тоўсты шэры кот. Той адразу страпянуўся і наставіў на госця драпежныя жоўтыя вочы.

— Вось і я, — праспявала Адэлаіда Эдуардаўна, з'явіўшыся ў пакоі з падносікам у руках.

Расставіўшы перад Сцяпанавічам на маленечкім нізенькім століку пачастунак, яна падскочыла да ялінкі і адразу ж з ахканнем павярнулася да канапы.

— Ну, мярзотная ты жывёла! Калі паспеў?

Сцяпанавіч ледзь не вывярнуў на сябе гарачую гарбату.

— Гэта я не вам, — лагодна звярнулася да яго гаспадыня. — Гэта Патрык, падлюка, ялінку памеціў.

— А-а-а, — засмяяўся Сцяпанавіч. — Не, гэта не ён. Гэта зараз сорт ялінак такі. Аляксандра Іванаўна з трэцяга паверха ўсім распавядае, што яе дзеці такую паставілі. Бы катамі трохі пасмярдывае. Выбачайце, што такая, — сусед раптам сумеўся і адставіў кубак.

— Калі б не вы, дык я б ніякай не мела, — пяшчотна пагледзела на яго Адэлаіда Эдуардаўна, дзівячыся, чаму яна раней не здагадалася запрасіць яго на гарбату.

### 30 снежня, панядзелак. Карпаратыўная ялінка

У гэты сонечны перадапошні дзень старога года праца ў іх офісе ішла жвава. Дзяўчаты ўзброіліся нажніцамі (хто звычайнымі для паперы, хто манікюрнымі) і выразалі з вялікіх аркушаў рознакаляровай паперы мініяцюрныя ялінкі.

— А чаму менавіта ялінкі? Мы ў школе сняжынкі выразалі,— сказала адна з супрацоўніц.

— Ну, ён сказаў, што ў нас будуць ялінкі, — адказала другая.

— Хм, дзівак, — пацiснула плячыма трэцяя.

— У мяне ўжо пальцы баляць, — кінула нажніцы чацвёртая і адхіснулася на спінку стула.

— А адкуль узялася гэтая ідэя?— вырашыла ўдакладніць першая.

— Ай, — закаціла вочы другая. — Казаў, што ў яго сябар таксама неяк з паперы ялінку зрабіў. Той паказаў яму фотку, ну а нашаму дурненькаму спадабалася. Вось мы зараз будзем гэтак жа...

— А навошта тады шарыкі і лямпачкі? — спытала трэцяя дзяўчына.

— Каб я ведала, — пакруціла галавою другая.

— Што тут здзіўляцца? Узялі студэнта на падпрацоўку, — шматзначна кінула чацвёртая.

— Затое грошай шмат не просіць, — вызірнула з-за камп'ютара намесніца дырэктара, якая таксама была занятая вельмі адказнай справай: перапісвалася з шэфам, што па сумяшчальніцтве быў яе мужам і рабіў закупы на заўтра.

— Ну, нарэзалі мы гэтых ялінак, а цяпер што? — зноў спытала адна з дзяўчат.

— Давайце стэплерам сшыем і паразвешваем, — прапанавала другая.

— Так, давайце, — пагадзіліся астатнія і ўзяліся за новы этап работы.

— Дык а лямпачкі з шарыкамі?

— Лямпачкі на акно павесім, а шарыкі я дамоў забяру, — адгукнулася намесніца.

— Ну, вечна ўсё сабе цягне,— прашаптала адна дзяўчына другой. — Я б, мабыць, таксама забрала б.

— Угу, і я, — кіўнула тая.

— Вось таму іх і забяру я, бо вас чацвёра і вы не дамовіцеся, — не адрываючыся ад манітора, павучальна прамовіла намесніца.

— Хэлоў!— уваліўся ў офіс задаволены сабой студэнт-праграміст, якога яны дагэтуль абмяркоўвалі. — Дамы, купіў торцік і не толькі, як і загадвалі!

Ён зухавата скінуў куртку і паставіў трафеі на бліжэйшы стол.

— А чаго лямпачкі на акно павесілі? — пацікавіўся ён.

— Ну, а куды іх? — павярнуліся да яго дзяўчаты, кожная з дзясяткам крывых папяровых ялінак у руках.

— Бляха-муха! — выбухнуў ён. — Вы навошта паперу пашасталі?

— Ну, ты ж казаў, ялінкі будзем рабіць! — абурэннем на абурэнне адказалі дзяўчаты.

— У-у... — прагудзеў хлопец, не наважыўшыся ахарактарызаваць супрацоўніц пэўным тэрмінам.

Ён сарваў з акна лямпачкі і, падхапіўшы пад паху скрынку з шарыкамі, рушыў прэч з офіса. Дзяўчаты моўчкі стаялі, пазіраючы на дзверы, за якімі ён знік. Нават намесніца дырэктара ўзняла галаву. Праз некалькі імгненняў студэнт вярнуўся. Дзяўчаты заўсміхаліся яму, але ён толькі хмыкнуў, забраў шампанскае з тортам і сыйшоў канчаткова.

### 31 снежня, аўторак. Сяброўская ялінка

— Так, дзяўчаты на кухню, Макс за сервіроўку стала, ты, Моця, у нас спец па ялінках — таму давай, наперад. А я трохі пасяджу, мне ўчора на працы стрэсу хапіла, — Віталь паваліўся ў фатэль і схапіўся за гітару. — Такія дурніцы, вы не ўяўляеце...

— За тры дні ў вас, зразумела, не знайшлося часу ялінку ўпрыгожыць, — нават не зварухнуўся з месца Мацей, што стаяў, прытуліўшыся плячом да вушака.

— Не, — сур'ёзным тонам адказаў Віталь і, заплюшчыўшы вочы, узяўся бязладна рваць струны.

— Дай сюды, — кінуў на стол сурвэткі Макс і, выхапіўшы ў брата гітару, пачаў граць тое самае.

— Ялінка! — кінуў у паветра Віталь, соладка выцягваючыся ў фатэлі.

Мацей цокнуў языком і марудна паплёўся да растапыранага дрэва.

— А паставіць яе побач з разеткай нельга было.

— Слухай, ну, што ты ўвесь час бурчыш? Вазьмі падаўжальнік.

— Ну, дык дай падаўжальнік.

Віталь раздражнёна храпануў.

— Братачка! — клікнуў ён і, трохі пачакаўшы, сказаў:— Да дзяўчат схаваўся на кухні і не адгукаецца, халера. Калі паспеў? Зараз прынясу.

Віталь вярнуўся з суседняга пакоя і згрузіў усё на падлогу каля ялінкі:

— На табе падаўжальнік, і дадатковыя лямпачкі на, і яшчэ спец-прыз выключна для цябе: Дзеда Мароза трымай.

— Угу.

— Вось заўжды, стараешся-намагаешся, а табе ў падзяку «угу»,— паскардзіўся Віталь ватоваму дзеду і, пачуўшы, як звініць дамафон, падхапіўся: — О, апошняя мая Надзея йдзе.

Мяркуючы па тлуме ў вітальні, «надзея» прыйшла не адна, а з дзясяткам таварышаў.

— Ну-с, што вы прынеслі да святочнага стала, шаноўная? — жартаўліва-ўрачыста спытаў Віталь.

— Ха! Цэлы пакунак! — дзёрзка адказала шаноўная. — А ў вас там такія пенсіянеры смешныя з коцікам на павадку па двары шпацыруюць...

— У каго там цэлы пакунак? З пакункамі сюды! — з кухні закамандавалі дзяўчаты.

— Ну, а дзе ваш Кот Мацей? Будзе?— запыталася Надзейка, распакоўваючы клункі.

— У гасцёўні з ялінкай корпаецца,— адказаў Макс, жуючы адзін бутэрброд і трымаючы ў руцэ другі.

— Не хапаць з талерак нічога! — закрычалі дзяўчаты.

— Ідзі знаёмся, ён добры, — сказаў Віталь, падштурхоўваючы Надзейку ў плечы.

Тая і з цікаўнасцю, і з неахвотай пацягнулася ў змрочную гасцёўню, поўную рознакаляровых ценяў ад уключанай гірлянды. Каля ялінкі нехта рухаўся.

— Прывітанне! Любіш упрыгожваць ялінкі?

Мацей пачаў лавіць па ялінцы нятрапна павешаны шарык. Выратаваўшы цацку, ён запытальна пагледзеў на дзяўчыну.

— Надзея! — зрабіла яшчэ адну спробу пазнаёміцца яна.

— У якім сэнсе? — спытаў Мацей.

— Імя, — патлумачыла Надзейка.— Мяне так клічуць.

— А-а, — кіўнуў ён і, павесіўшы яшчэ адну цацку, дадаў: — Я цябе ведаю.

— Гэта не дзіўна, я цябе таксама ведаю. Завочна.

— Чаму завочна? Гэта ж у цябе такі брахасты мізэрны сабака?

— Чаго гэта ён мізэрны? — пакрыўдзілася Надзейка.

— Ну, не вялізны ж ён,— парыраваў Мацей. — І яшчэ вы дваццаць пятага ялінку ставілі.

— Адкуль ведаеш? — напружылася Надзейка.

— Я жыву ў доме насупраць.

— Ты што, сочыш за мною?

Нават у прыцемку было бачна, як Мацей пакутліва запунсавеў.

— Ды не, — сарамліва прамовіў ён. — У мяне стол каля акна стаіць, хочаш-не хочаш, а ўбачыш. Я адзін жыву, нудна, а вы так весяліліся, ажно зайздрасць узяла.

— Дык ты што, адзін? Зусім? — зазірнула яму ў твар Надзейка.

Мацей паціснуў плячыма і вырашыў, што нарэшце можна ўсміхнуцца.

— Давай дапамагу, — Надзейка падышла да ялінкі і таксама пачала развешваць цацкі. — Вось жа, трэба было ехаць праз увесь горад, каб пазнаёміцца з хлопцам са свайго двара. Проста нейкая калядна-навагодняя гісторыя!

ХАКЕЙ

## Моладзевы чэмпіянат свету




**У польскім Санку моладзевая зборная Беларусі па хакеі паспрабуе прабіцца ў элітны дывізіён.** Мінулыя шэсць разоў зборная заставалася другой, аддаючы адзіную пуцёўку камусьці іншаму. Сёлета супернікамі будуць Славенія, Аўстрыя, Польшча, Латвія і Данія. Тэлеканал «Беларусь-5» абяцае дзве трансляцыі: 19 снежня супраць палякаў (пачатак а 22), 21 снежня — супраць латышоў (пачатак а 18:30).

КАНЦЭРТЫ

## Срэбнае вяселле

**20 снежня а 19 у клубе RE:PUBLIC (Прытыцкага, 62)** выступае кабарэ-бэнд «Срэбнае вяселле» з праграмай «Кабарэ ў квадраце».

## Akute

**22 снежня а 19 у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** утульны канцэрт гурту Akute.

## Калядны фэст

**25 снежня а 17.30 у клубе RE:PUBLIC** пачнецца традыцыйны «Калядны фэст», удзел бяруць гурты «Стары Ольса», Znich, Litvintroll.

ВЫСТАВЫ

## Перасячэнне і пераемнасць у Маене

**У Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануецца выстава «Перасячэнне і пераемнасць у Маене». Упершыню ў Беларусі можна пабачыць творы 10 французскіх аўтараўсамавукаў, прадстаўнікоў розных плыняў наіўнага, інсітнага мастацтва, што сфармавалі асобны дынамічны стыль.

## 20 жанчын

**У галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** можна пабачыць фотапраект Вольгі Бубіч «20 жанчын» — дваццаць партрэтаў жанчын і дзяўчын ва ўзросце ад 16 да 37 гадоў з 13 краінаў: ад Літвы да Гамбіі. Фотамастачка прасіла гераінь апісаць чалавека, з якім яны хацелі б правесці сваё жыццё. Вынік працы: 20 партрэтаў — 20 жаночых галасоў, якія шчыра кажуць пра таго, каго яны б хацелі бачыць побач.

## Таямніца ночы

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** адкрылася персанальная выстава Гаўрылы Вашчанкі — класіка беларускага мастацтва,– прысвечаная 85-годдзю аўтара. На ёй можна пабачыць работы майстра, што былі створаны цягам апошніх трох дзесяцігоддзяў. «Выстава — плод шматгадовых разваг, невеяных і бяссоннем, і жыццёвымі эпізодамі, таксама старажытнымі павер'ямі і легендамі. Ноч жа заўсёды хавае мноства таямніц», — тлумачыць назву выставы сам мастак.

## На шчасце

**У Галерэі Міхася Савіцкага (пл. Свабоды, 20)** арганізаваная выстава дыванкоў-маляванак Алены Кіш (1889 — 1949) пад агульнай назвай «На шчасце». На шчасце блізкім дарылі калісьці маляванкі ў беларускіх вёсках: з нагоды вяселля, хрэсьбін, улазін. А імя беларускі Алены Кіш унесена ў «Сусветную энцыклапедыю наіўнага мастацтва», прысвечаную стагоддзю дзейнасці французскага мастака-прымітывіста Анры Русо.






Выстава пераможцаў міжнароднага конкурсу фотажурналістыкі World Press Photo 2013
Пры інфармацыйнай падтрымцы інтэрнэт-парталу TUT.BY і радыё UNISTAR

Мінск, праспект Незалежнасці, д. 58, к.6 (праход праз вул. П. Броўкі, 2-гі паверх)

**11 – 31 снежня**
**Прастора «ЦЭХ»**




кожны дзень 10:00 – 22:00
тэлефон для даведак: +375 29 68 68 333

Выстава ладзіцца пры фінансавай дапамозе амбасады Каралеўства Нідэрландаў у Варшаве







ТЭАТРЫ

### 19 снежня

**Беларускай драматургіі** — Ціхі шэпт сыходзячых крокаў
**Купалаўскі** — Не мой
**Оперы і балета** — Кармэн

### 20 снежня

**Купалаўскі** — Не мой
**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Оперы і балета** — Рамэа і Джульета

### 21 снежня

**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Беларускай драматургіі** — Адвечная песня
**Оперы і балета** — Рамэа і Джульета
**Лялек** — Мыйдадыр
**Юнага гледача** — Куды падзеўся снег?..

### 22 снежня

**Купалаўскі** — Офіс
**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Юнага гледача** — Куды падзеўся снег?..
**Оперы і балета** — Снягурка

### 23 снежня

**Юнага гледача** — Куды падзеўся снег?..

### 24 снежня

**Беларускай драматургіі** — Дамавічкі, Містар Розыгрыш
**Оперы і балета** — Севільскі цырульнік
**Юнага гледача** — Куды падзеўся снег?..

### 25 снежня

**Юнага гледача** — Куды падзеўся снег?..
**Оперы і балета** — Жызэль, або Вілісы

КІНО

## Жыць і выжываць

Дванаццаць гадоў рабства
драма, біяграфія, гісторыя
**Рэжысёр:** Стыў Макуін
**У ролях:** Чыветэл Эджыафор, Майкл Фасбендар, Бенедыкт Камбербэтч, Брэд Піт
ЗША, 133 хв.

1841 год. Цемнаскуры Саламон Нортап жыве з сям'ёй у штаце Нью-Ёрк. Ён таленавіты скрыпач, і аднойчы яму прапануюць працу ў Вашынгтоне. Каб падзарабіць для сям'і, ён выпраўляецца туды разам з працадаўцамі — двума цыркавымі артыстамі. Пасля ўдалых выступаў Нортап атрымлівае заробак, а пасля святкавання аказваецца ў падвале, скаваны ланцугамі: яго скралі і прадаюць у рабства, якое квітнее ў паўднёвых штатах. У Новым Арлеане Саламона набывае яго першы ўладальнік — так пачынаецца яго дванаццацігадовае падарожжа ад аднаго гаспадара да другога.
Фільм заснаваны на рэальных падзеях: сапраўдны Саламон Нортап выдаў кнігу ўспамінаў у 1853 годзе пра той час, што ён знаходзіўся ў няволі, пазбаўлены ўласнага імені, без сувязі з роднымі. Вольны чалавек, які зведаў зусім іншае жыццё ў мясцінах, дзе з людзьмі абыходзяцца горш, чым з жывёламі, не дазваляе паламаць сябе і імкнецца захаваць сваю годнасць, хоць вымушаны прыстасоўвацца да абставінаў. Саламон застаецца добрым і чалавечным нягледзячы на тыя зверствы, што бачыць вакол і ад якіх пакутуе сам — і фізічна, і духоўна.
Надзвычай кранальная і моцная стужка, адзін з галоўных прэтэндэнтаў на прэмію «Оскар-2014».

**Настасся Уласава**



# Асобы года ў беларускім спорце

Дзясятка спартсменаў, якія сёлета дасягнулі найлепшых вынікаў, а таксама вызначыліся сваёй грамадзянскай пазіцыяй.

## Жанчыны

### Аляксандра Герасіменя

Двухразовая віцэ-чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў у Лондане працягвае папаўняць калекцыю медалёў. Бронза Чэмпіянату Еўропы стала для Герасімені трыццатай узнагародай найвышэйшага ўзроўню ў кар'еры. «Болей, відаць, толькі ў Кацярыны Карстэн, але яна і старэйшая за Саню на цэлае спартыўнае жыццё», — кажа журналіст Сяргей Шчурко.



### Вікторыя Азаранка

У 2013 год Азаранка ўступіла першай ракеткай свету. Яе працяглая серыя без паразаў дазволіла перамагчы на трох першых турнірах і абараніць свой тытул на звышпрэстыжным Australian Open. А таксама пазбавіцца «комплексу Серэны Уільямс» дзякуючы некалькім перамогам над амерыканскай тэнісісткай (у апошнія гады — найлепшай у свеце). Шматлікія траўмы не спрыялі стабільнай гульні Вікторыі. Зрэшты, Азаранка ўсё роўна скончыла сезон на другім радку ў сусветным рэйтынгу.

### Дар'я Домрачава

Апошнія некалькі гадоў Домрачава знаходзіцца ў эліце сусветнага біятлона. У сезоне 2012/13 гадоў яна выйграла тры гонкі Кубка свету, дзевяць разоў уздымалася на подыум і другі раз запар заняла ў агульным заліку другое месца. У новым біятлонным сезоне Дар'я пакуль не паказвае сваіх найлепшых вынікаў. Фірмовая хуткасць спалучаецца ў яе са слабой стральбой. Зрэшты, неўзабаве нас чакаюць Зімовыя Алімпійскія гульні. Магчыма, трэнеры выведуць Домрачаву на пік формы менавіта да гэтых спаборніцтваў.

### Анастасія Верамеенка

З сярэдзіны мінулага дзесяцігоддзя баскетбольная жаночая зборная Беларусі нязменна знаходзіцца ў сусветнай эліце. Сёлета яна стала пятай у Еўропе. Сярод лідараў каманды (Алены Леўчанка і Настассі Верамеенка) «НН» робіць стаўку на другую. Верамеенка доўгія сем гадоў выступала ў далёкім Арэнбургу. А летась наважылася на пераезд у турэцкі «Фенэрбахчэ». Вынікі відавочныя: тытул найлепшай баскетбалісткі Беларусі, перамога ў Чэмпіянаце Турцыі і фінал Еўралігі (баскетбольны аналаг Лігі чэмпіёнаў).

### Аліна Талай

24-гадовая лёгкаатлетка неаднаразова атрымлівала медалі на еўрапейскіх і сусветных спаборніцтвах. Сёлета яна стала срэбнай мэдалісткай Чэмпіянату Еўропы ў памяшканні. Але заўзятары любяць Талай не толькі за яе дасягненні. Яна трымаецца нацыянальнай пазіцыі. Сёлета яна пазітыўна выказалася пра сімволіку. «Давайце не будзем падманваць адзін аднаго: наш колер — бел-чырвона-белы. Куды падзець гісторыю дзяржавы да 1917 года?»








## Мужчыны

### Сяргей Рутэнка (на фота справа)




На мяжы стагоддзяў перспектыўны малады гандбаліст з'ехаў на Захад. А неўзабаве стаў выступаць за зборную Славеніі, з якой трапіў на Алімпіяду. Зорная «Барселона» перакупіла беларуса за 1,2 мільёна еўра — і Рутэнка стаў самым дарагім гандбалістам свету.

Яму дазволілі зноў абараняць колеры Беларусі. Дзякуючы Рутэнку, зборная пасля доўгага перапынку вярнулася ў сусветную гандбольную эліту. Сёлета на Чэмпіянаце свету зборная заняла 15-е месца. А сам Рутэнка быў прызнаны найлепшым левым паўсярэднім свету.




### Віталь Радзівонаў (на фота зверху)

Сёлета найлепшым футбалістам Беларусі быў прызнаны Цімафей Калачоў. Але мы робім стаўку на Віталя Радзівонава з БАТЭ. Ён стаў найлепшым гульцом Чэмпіянату Беларусі, а таксама накалаціў больш за ўсіх галоў.

За інтэлект і нестандартнае мысленне Радзівонаў атрымаў мянушку Прафесар. А сёлета як ніколі выразна загучала грамадзянская пазіцыя футбаліста. Ён зняўся ў некалькіх сацыяльных роліках і публічна заявіў, што беларуская мова «павінна гучаць часцей і па тэлебачанні, і па радыё, а таксама сустракацца ў нацыянальнай прэсе як мага часцей».

### Міхаіл Грабоўскі

За ўсю гісторыю ў Нацыянальнай хакейнай лізе выступалі ўсяго дзевяць беларусаў. Але рэгулярна на лёд цяпер выходзіць толькі Грабоўскі. Апошнія гады хакеіст быў на добрым рахунку ў «Таронта». Канфлікты з трэнерам прымусілі Грабоўскага змяніць клуб. Міхаіл добра ўпісаўся ў каманду гульню «Вашынгтона», за які выступае разам са славутым расейцам Аляксандрам Авечкіным, і рэгулярна радуе заўзятараў закінутымі шайбамі або выніковымі перадачамі.

### Віталь Гуркоў

Дзесяціразовы чэмпіён свету па тайскім боксе, Гуркоў добра ведае айчынную гісторыю. Ён стаў адным з першых спартсменаў, хто стаў размаўляць па-беларуску ў тэлеэфіры. Дарэчы, сваім жыццёвым арыенцірам баксёр лічыць Кастуся Каліноўскага.

Сёлета галоўным стартам Гуркова сталі Combat Games у Пецярбургу — своеасаблівая байцоўская Алімпіяда. У катэгорыі да 71 кг ён прабіўся ў фінал, дзе суддзі аддалі перамогу расійскаму стартсмену.

### «Цмокі»

Дваццаць гадоў таму моладзевая зборная Беларусі стала чэмпіёнам Еўропы па баскетболе, але з таго часу мужчынскія каманды не ведалі дасягненняў у гэтым відзе спорту. Выправіць становішча ўзяліся «Цмокі». Клуб абраў запамінальную назву, змяніў канцэпцыю развіцця (яго шэрагі папоўнілі замежныя баскетбалісты) і зрабіў стаўку на прасоўванне ў грамадстве беларускай мовы. Вынікам стаў відавочны ўздым якасці гульні. І чэргі ў «Мінск-Арэне» па білеты на баскетбол.

**Андрусь Вяткоўскі**



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**12 снежня адбылося ўручэнне прэміі ад партала Тузін Гітоў «Героі года». Гуртом года названы беларускамоўны RE1IKT.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Мінску прайшоў конкурс беларускага танца «Мяцеліца». Удзельнічала ажно 39 пар з усёй Беларусі. У праграме конкурсу было 10 найбольш вядомых беларускіх танцаў, сярод якіх «Лявоніха», «Падыспань», «Кракавяк», «Полька-какетка», «Ночка».**



**Гэты фотаздымак Нікалас Ройзенс Бодэн зрабіў у Швецыі. «Я здымаў у натуральных, але кантраляваных умовах», — кажа ён.**



**Жанчыны, асуджаныя на доўгія турэмныя тэрміны за ўдзел у акцыях падтрымкі зрынутага прэзідэнта Егіпта Мухамеда Мурсі, пратэстуюць падчас разгляду апеляцыйнай скаргі. Чатырнаццаць жанчын з'явіліся ў зале суда ў белым адзенні — кожная з іх узяла чырвоную ружу. На далонях у іх было напісана слова «свабода».**

## Анекдоты і жарты

* * *

Прыходзіць Пуцін да варажбіткі і кажа:

— А ну, скажы, цыганка, што будзе праз дзесяць гадоў?

— Вайна з Украінай.

— Та! — махнуў рукой Пуцін. — Гэта я ведаю, гэта ў нас у планах... Ты мне раскажы штосьці пабытовае, як людзі жыць будуць. Ну, напрыклад, колькі ў Маскве будзе каштаваць бутэлька піва?

— 6 грывен.

* * *

— Як сказаць па-беларуску "тэлефон з сэнсарным экранам"?

— Тэлефон пальцам пханы.

— А кілбаса пальцам пханая?

— Кілбаса сэнсарная.

* * *

«Мы ідзем нос у нос з амерыканцамі ў стварэнні гіпергукавай зброі!» — заявіў віцэ-прэм'ер Расіі.

«Зрабіце спачатку бензапілу», — сказаў Рабіновіч.

* * *

Сённяшняя бальніца — гэта месца, дзе пацыенты перашкаджаюць дактарам весці дакументацыю.

* * *

Супрацоўнік ДАІ спыняе машыну і пытаецца ў кіроўцы:

— Чаму адна фара не гарыць?

— Новая мадэль — «Лада-Кутузаў».

* * *

– Мілая, я ляцеў да цябе на крылах кахання.

– Цэлыя тры дні?

– Ветрам зносіла.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нашы суседзі латышы** гэтак пайшлі наперад у працы над сваім адраджэннем, што сягоння Латышчына не толькі першая ў Расіі старонка па культуры зямлі, але бадай ці не першая па культуры жыхароў. Не так даўно — гадоў 40-60 таму — аб латышскім селяніне пісалі тое самае, што цяпер пішуць аб нас: цёмны, дужабедны, малакультурны. А цяпер найбагацейшы, найсвятлейшы і найкультурнейшы селянін з усёй Расіі — гэта селянін латышскі.

**«НН». №50. 1913.**

**Выбітная навіна** напаткала аматараў канапнага палявання ў тэлеэфіры. Каб даць спажыву бясконцым размовам на ўвесь працоўны тыдзень. Князь цемры, сатрап Вавілону, Садам Хусэйн трапіў у палон.

**«НН». №47. 2003.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
наменікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 17.12.2013.
Замова №5288.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 13047